


**ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ: УКРАІНА** 2 стар.

**БЕЛАРУСКІ ВЫБАР: ЦЭНТР "СТРАТЭГІЯ" НАЗЫВАЕ ПЯЦЬ МАГЧЫМЫХ ЭКАНАМІЧНЫХ СЦЭНАРЫЯЎ РАЗВІЦЦЯ КРАІНЫ** 3 стар.

**СПОРТ: ХАКЕЙ НА ТРАВЕ, ФУТБОЛ** 2 стар.



**ВАНДРОЎКА З Ігарам ГАТАЛЬСКІМ** 4 стар.

**ХРЫСЦІЯНСКАЯ СТАРОНКА "ЖЫЦЦЁ І ВЕРА"** 5 стар.

**НАТАТКІ Леаніда ЛЫЧА: "ЗБС "БАЦЬКАЎШЧЫНА" НАПЯРЭДАДНІ 10-годдзя** 6—7 стар.



**"СРЭБНЫ ДОЖДЖ"**

***ПЕРАКЛАДЫ З АНГЛАМОЎНАЙ ПАЭЗІІ Алены ТАБОЛІЧ*** 6 стар.

**ПРЭМ'ЕРА**

**СОЛЬНЫ КАНЦЭРТ Ірыны ДАРАФЕЕВАЙ** 8 стар.




**АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА** **РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ**

# Голас Радзімы

17 мая 2000 года
Цана 75 рублёў

**№ 20 (2682)**

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі

Выдаецца з 6 красавіка 1955 года

**РАДАВОД**



## Я БЕЛАРУС! І ГАНАРУСЯ ГЭТЫМ...

Мой пачатак на Беларусі. Я так думаю таму, што мае бацькі нарадзіліся на беларускай зямлі і я сам нарадзіўся там. На Беларусі жывуць мае бабулі, маміны сёстры і брат, стрыечныя сёстры і браты.

А сёння для мяне Радзіма — гэта мой Даўгаўпілс і мая вёсачка Дзікева.

Беларусь — вельмі прыгожая краіна. Мне падабаецца праводзіць лета ў бабулі на вёсцы. Гэты маленькі куточак зямлі — мая малая радзіма. Там шмат маіх сяброў. З бабуляй я размаўляю на беларускай і рускай мовах. Калі я не ведаю словы, то бабуля мне іх падказвае. Я вельмі люблю Беларусь і яе прыроду. Мне падабаецца хадзіць у лес па грыбы ці проста на прагулку. Люблю лавіць рыбу на рэчцы і возеры. Калі я ў лесе бачу жывёл ці птушак, то мне здаецца, што гэта падарунак прыроды. Аднойчы я бачыў чорнага бусла. Гэта рэдкая птушка занесена ў Чырвоную кнігу.

Дзядулі мае даўно памерлі, і я іх не бачыў. А мой прадзед пражыў больш за 90 гадоў. Ён памёр нядаўна. Прадзед быў цікавы чалавек. Ён заўсёды расказваў нам шмат цудоўных гісторый. Напрыклад, пра сваё жыццё, пра тое, як ён украў сваю жонку. Яе не хацелі за яго аддаць. Таксама пра вайну, пра сваіх бацькоў, пра цікавых людзей. Я любіў яго слухаць, а ён любіў расказваць. Цяпер яго няма і мне сумна. З прадзедам Сцяпанам мы былі сябрамі.

У бабулінай вёсцы ёсць музей імя Язэпа Драздовіча, знакамітага беларуса. Ён хадзіў па вёсках і збіраў песні, прыказкі, прымаўкі, маляваў прыгожыя карціны. Мой прадзед расказваў, што Язэп Драздовіч маляваў на цыратах, яны доўга захоўваліся. Прадзед Сцяпан сябраваў з Я. Драздовічам. Ён прыходзіў да майго прадзеда і маляваў прыгожы дыван на сцяну з лебедзямі, рэчкай і нейкім замкам. Гэты дыван доўга вісеў над ложкам. У тыя гады людзі жылі бедна, нельга было ўсё купіць. Не кожны мог набыць дываны Я. Драздовіча. Ён не браў грошы, але за яго малюнкі людзі кармілі яго і давалі харч з сабой.

Аднойчы да нас у Даўгаўпілс прыехаў вядомы мінскі пісьменнік С. Панізнік. Ён прывёз нам кнігу пра Я. Драздовіча, якую сам напісаў. Было вельмі прыемна, што мы нешта ведаем пра героя кнігі. Сяргей Сцяпанавіч быў на адкрыцці музея ў бабулінай вёсцы. Значыць, мы ўсе нейкім чынам звязаны. Можа гэта і называецца сувяззю пакаленняў?

Сярод нашай радні таксама ёсць цікавы чалавек, але ён даўно памёр. Яго фотаздымак у музеі імя Я. Драздовіча, што ў



бабулінай вёсцы. Ён быў кавалерам трох георгіеўскіх крыжоў. Сапраўдны мужчына, вельмі смелы чалавек, дзед Малафей ваяваў у разведцы, і за гэта яму далі такую высокую ўзнагароду. Я ўсім пра яго расказваю.

Я яшчэ не зусім ведаю, якім будзе маё будучае жыццё. Хачу вучыцца і каб мая прафесія была звязана з прыродай і жывёламі. На Беларусі ёсць два вялікія запаведнікі: Бярэзінскі і Белавежскі. Многа гаворыцца пра стварэнне запаведнай зоны на Браслаўшчыне. Я хачу там працаваць, аберагаць прыроду роднай Беларусі, экалогію Зямлі. Зямля ў нас адна, як і маці.

**Міхась БУЧЭЛЬ.**

Латвія, г. Даўгаўпілс.

**КОРАТКА**

**У МІНСКУ Ў ДОМЕ ДРУЖБЫ АДБЫЎСЯ ПРЫЁМ У ГОНАР ДНЯ КАНСТЫТУЦЫІ ПОЛЬШЧЫ.** Польскі пасол Марыуш Машкевіч разам з жонкаю прымаў шматлікіх гасцей і цёплыя сяброўскія віншаванні.

Дзень Канстытуцыі — адно з самых шанаваных палякамі свят, якое адзначаецца асабліва ўрачыста. Асноўны Закон Польшчы быў прыняты ў 1791 годзе, што дае нашым суседзям усе падставы ганарыцца унікальнасцю сваёй Канстытуцыі: яна ж з'яўляецца першай у Еўропе і другой у свеце.

Польская рэспубліка звыш двух стагоддзяў жыве па законах прававой дзяржавы, і гэты вопыт мае рашаючае значэнне сёння, калі краіна спрабуе інтэгравацца ў еўрапейскую палітычную сістэму і сусветную эканоміку.

**З ПАЧАТКУ ГЭТАГА ГОДА, У ПЕРЫЯД СА СТУДЗЕНЯ ПА САКАВІК, УКЛАДЫ НАСЕЛЬНІЦТВА Ў БАНКІ БЕЛАРУСІ ПАВЯЛІЧЫЛІСЯ НА 47 ПРАЦЭНТАЎ.** На 1 красавіка яны склалі больш за 42 мільярды рублёў. Валютныя ўклады перавысілі 217 мільёнаў долараў.

На рахунку беларускіх прадпрыемстваў трапіла больш валютных сродкаў, значна павялічыўся продаж валюты на Міжбанкаўскай валютнай біржы і ў абменных пунктах банкаў. У параўнанні з апошнім кварталам 1999 года крэдытныя ўклады банкаў у эканоміку краіны ўзраслі на 32,3 працэнта і складаюць зараз 489,1 мільярда рублёў. Пры гэтым доля доўгатэрміновых крэдытаў склала 55, а рэсурсы аграпрамысловага комплексу выдзяляліся без эмісійных крэдытаў Нацыянальнага банка.

**КІТАЙСКІЯ СТУДЭНТЫ Ў ВІЦЕБСКУ.** У верасні ўпершыню ў аўдыторыях Віцебскага дзяржуніверсітэта загучыць кітайская мова. Рашэнне аб вучобе ў Віцебску студэнтаў з Кітая падпісана 20 красавіка прарэктарам ВДУ Анатолем Дарафеевым і сакратаром парткома Хук-Хатоскага педагагічнага інстытута Пань Цзеньчжы. Згодна з дамовай, спачатку ў Віцебск прыбудуць 30 чалавек з кітайскай правінцыі Унутраная Манголія. Асобую цікавасць кітайцы праяўляюць да вывучэння філалагічных і гуманітарных дысцыплін.

**Падрыхтаваў Алесь ЕРМАКОЎ.**

**БЕЛАРУСІКА**

## *ДЗІЎНАЯ РОДНАЯ МОВА...*

Пачынаючы з 1997 года, у Беларускім дзяржаўным універсітэце працуе аддзяленне "Беларуская мова як замежная". Сёння тут займаюцца студэнты з Польшчы, Літвы, Германіі і Расіі. Безумоўна, вывучэнне імі беларускай мовы патрабуе спецыфічных падыходаў, якія і распрацоўвае кафедра сучаснай беларускай мовы філалагічнага факультэта. Напрыклад, у 1999 годзе з'явіўся вучэбны дапаможнік "Гаворым па-беларуску", прызначаны для замежных навучэнцаў. Прынцыпова новым у гэтым падручніку з'яўляецца тое, што папярэднія выданні былі накіраваны выключна на рускамоўную аўдыторыю і пад увагу не прымаліся іншыя краіны, нібыта там і не цікавяцца нашай гісторыяй і культурай...

Пашырэнню ведаў пра нашу краіну садзейнічае таксама штогодні летні семінар школы беларусістыкі, вучэбныя курсы якой разлічаны на супрацоўнікаў навуковых і навучальных устаноў, студэнтаў, пісьменнікаў, перакладчыкаў, журналістаў — усіх, хто жадае ўдасканаліць свае веды ў беларусістыцы. У мінулым годзе ў IV семінары прынялі ўдзел студэнты і выкладчыкі з шаснаццаці краін свету. Трэба заўважыць, што дырэктар школы Зінаіда Бадзевіч лічыць асноўным у сваёй працы камунікатыўны падыход, а галоўным недахопам папярэдніх методык — вывучэнне беларускай мовы праз рускую, што непазбежна вяло да скажэння фанетычнага ладу. Як адзначыў у нашай размове выкладчык Рыгор Чахоўскі, які непасрэдна працуе з замежнымі студэнтамі, цікавасць да Беларусі з кожным годам расце, усіх захапляе незвычайная прыгажосць краіны і гасціннасць беларусаў. А замежная моладзь такая ж самая — вясёлая і бесклапотная...

**Даша КЛІМОВІЧ.**

**ВІНШУЕМ!**



**Стафаніі СТАНЮЦЕ — 95 гадоў**

На здымку старэйшая актрыса тэатра Янкі Купалы, народная артыстка Беларусі Стафанія СТАНЮТА на адной з сустрэч з гледачамі.

**Фота БелТА.**

**СПАДЧЫНА**



● **Сяргей ХАЛАДЗІЛІН.**

870 гадоў спаўняецца сёлета з дня нараджэння Кірылы Тураўскага, вядомага царкоўнага дзеяча, асветніка і пісьменніка. Ён нарадзіўся ў Тураве, быў адукаваным чалавекам свайго часу. Тураўскі епіскап, ён праслявіўся як царкоўны прапаведнік. Нашы далёкія продкі называлі Кірылу Тураўскага "Златоуст, паче всех воссиявший нам на Руси". Да нас дайшло 60 яго твораў. Памёр у 1182 годзе. Кананізаваны Рускай праваслаўнай царквою.

НА ЗДЫМКУ: помнік Кірылу Тураўскаму ў Тураве.

NEWS FROM BELARUS * БЕЛОРУССКИЕ НОВОСТИ * BIALORUSKIE WIADOMOSCI * NOTICIAS DE BELARUS

## СПОРТ

### ФУТБОЛ

Матчам паміж сталічным "Дынама" і "Ладай" стартаваў трэці тур 10-га чэмпіянату Беларусі па футболу ў вышэйшай лізе. Мінчане ўпэўнена перайгралі гасцей (4:0) і зрабілі сур'ёзную заяўку на лідэрства, набраўшы 7 ачкоў. Столькі ж на рахунку мазырскай "Славіі", якая на гэты раз, пасля дзвюх стартавых перамог, будучы ў гасцях, мірна разышлася з "Тарпеда-МАЗ" — 0:0.

Тур вызначыўся некаторымі нечаканасцямі, да якіх можна аднесці пройгрыш у Салігорску мінулагодняга чэмпіёна "БАТЭ" мясцоваму "Шахцёру" — 1:3. Удалым аказаўся выезд у Брэст для "Нафтан-Дзвона". Новапалачане ўзялі верх — 3:2 — над дынамаўцамі, якія сёлета стартавалі надзвычай слаба: тры гульні — тры паражэнні.

Высокай вынікловасцю здзівілу на гэты раз "Гомель", які на выездзе літаральна разграміў магілёўскае "Тарпеда-Кадзіна" — 7:2. А найбольш агрэсіўнымі гаспадарамі аказаліся футбалісты бабруйскай "Белшыны", якія "ўсухую" (4:0) "наехалі" на слонімскі "Камунальнік". Першую перамогу пасля дзвюх нічыіх атрымаў рэчыцкі "Ведрыч-97". "Ахвярай" дэбютанта вышэйшай лігі стаў гродзенскі "Нёман-Белкард" (0:1).

### ХАКЕЙ НА ТРАВЕ



Упершыню на constsaveцкай прасторы Еўрапейскай канфедэрацыяй хакея на траве было дадзена права Брэсту правесці турнір Кубка ўладальнікаў Кубкаў па хакею на траве ў групе "В". Брэсцкі стадыён "Будаўнік" пасля рэканструкцыі — адно з лепшых палёў Еўропы, якое адпавядае ўсім стандартам. Каманда з Расіі, Шатландыі, Італіі, Украіны, Беларусі, Бельгіі, Чэхіі змагаліся за права быць першымі. Перамагла каманда "Лёвін" (Бельгія), "Будаўнік" (Брэст) — на чацвёртым месцы.

НА ЗДЫМКАХ: моманты гульні "Будаўнік" (Брэст) і "Дынама" (Екацярынбург); аднаўлены стадыён "Будаўнік" у Брэсце.



БелТА.

## «КАРАЛЕВА ВЯСНА-2000»

У канцэртнай зале "Мінск" адбыўся міжнародны студэнцкі конкурс грацыі і артыстычнага майстэрства "Каралева Вясна-2000". У ім прыняло ўдзел 14 пераможцаў рэгіянальных конкурсаў беларускіх вышэйшых навучальных устаноў і Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта. Сапернiцы спаборнічалі ў дасціпнасці, жаноцкасці, артыстычнасці, жаданні спадабацца гледачам і журы. Тытул "Каралева Вясна-2000" заваявала Кацярына ПОЛАЎЦАВА — студэнтка Белдзяржуніверсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі (на здымку).



Фота Віктара ТАЛОЧКІ.

## СТАТЫСТЫКА

**КОЛЬКАСЦЬ СЕЛЬСКІХ НАСЕЛЕНЫХ ПУНКТАЎ У БЕЛАРУСІ ЗА АПОШНІЯ ДЗЕСЯЦЬ ГАДОЎ ПАМЕНШЫЛАСЯ НА 1 099, АЛЕ НА 30 ПРАЦЭНТАЎ — З 56 ДА 85 — ПАВЯЛІЧЫЛАСЯ КОЛЬКАСЦЬ БУЙНЫХ ВЁСАК, У КОЖНАЙ З ЯКІХ ПРАЖЫВАЕ БОЛЬШ ЗА ДЗВЕ ТЫСЯЧЫ ЧАЛАВЕК.**

Пра гэта паведаміла намеснік міністра статыстыкі і аналізу Галіна Гасюк са спасылкаю на папярэднія вынікі перапісу насельніцтва, праведзенага ў Беларусі ў лютым 1999 года.

Па словах Г. Гасюк, значная частка сельскіх пасяленняў спыніла сваё існаванне ў сувязі з вымушаным перасяленнем жыхароў з забруджаных радыенуклідамі тэрыторый. Шэраг хутарскіх паселішчаў, якія налічваюць ад аднаго да пяці дамоў, перасталі існаваць, бо іх жыхары памерлі. За перыяд паміж двума перапісамі насельніцтва некаторая колькасць сельскіх населеных пунктаў была узбуйнена з наступным рашэннем рэспубліканскай тапанімічнай камісіі аб прысваенні ім назвы аднаго з населеных пунктаў.

Цяпер у Беларусі 69 працэнтаў насельніцтва пражывае ў гарадах, 31 — у сельскай мясцовасці. А ўсяго ў краіне налічваецца 104 гарады, 108 пасёлкаў гарадскога тыпу і 23 457 сельскіх населеных пунктаў.

**Алесь ЕРМАКОЎ.**

**Калектыў Беларускага таварыства дружбы выказвае глыбокае спачуванне Алене МІЛАВАНАВАЙ у сувязі са смерцю яе маці Марыі Іванаўны.**

**Калектыў Беларускага таварыства дружбы выказвае глыбокае спачуванне Ніне ІВАНОВАЙ у сувязі са смерцю яе маці Лідзіі Сямёнаўны.**

## ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

### АДКРЫТЫ ЛІСТ ДА ПАСЛА БЕЛАРУСІ НА УКРАІНЕ

Шаноўны спадар Курашык! Прыміце словы шчырай падзякі за святочнае віншаванне! Калі сказаць шчыра, то за тыя гады, што жыву ў незалежнай Украіне, гэта першае віншаванне ад амбасадара дзяржавы, у якой я нарадзіўся, вырас, атрымаў адукацыю. Але вельмі хутка здзіўленне змянілася пачуццём задавальнення: хоць адна прыемная з'ява ў шэрай будзённасці, якая агарнула ўжо каторы год Украіну. Шмат людзей без працы, яшчэ большая грамада штодня падаецца на заробкі ў Польшчу, Славаччыну, Чэхію, Грэцыю, Італію, Нямеччыну ды іншыя краіны, нават у нялюбую мясцовымі нацыяналістамі Расію, у яе сталіцу Маскву... Вы ведаеце, што я працую ў школе, выкладаю рускую і польскую мовы, а таксама замежную літаратуру, займаюся гуртам беларускай культуры "Зорка Венера". За сваю працу "атрымліваю" трохі болей за 30 долараў ЗША: узяў дзеяслоў "атрымліваю" ў двукоссе, таму што грошы мы бачым 4—5 разоў на год, ды й выдаюць нам звычайна толькі 40 працэнтаў! Астатнімі "сумамі" на паперы мы разлічваемся па так званаму ўзаемазаліку за камунальныя паслугі, святло, тэлефон і г. д. І калі я чытаю ў газеце "Украіна молода" ці бачу па "Інтэру" або па УТ-2, як часам крытыкуецца жыццё на нашай гістарычнай бацькаўшчыне, мяне агортвае пачуццё агіды: у самiх большая частка насельніцтва апынулася за мяжой беднасці. Думаю, што трэба даваць галоснную ацэнку такім падзеям, якія скіраваны супраць Беларусі. Мы, беларуская дыяспара Украіны, заўсёды Вас падтрымаем у гэтым!

З павагаю
**Пятрусь КАПЧЫК,**
**кіраўнік гурта беларускай культуры "Зорка Венера".**

Украіна, г. Ізяслаў.

## ВІЦЕБСКІ КІРМАШ







Першая міжнародная выстава-кірмаш прайшла ў Віцебску. У ёй прынялі ўдзел 60 прадпрыемстваў Прыдзвіння, а таксама фірмы з краін СНД, Балтыі і далёкага замежжа. На працягу трох дзён яго ўдзельнікі пазнаёміліся з прадукцыяй, што выпускаецца на Віцебшчыне, заключылі дагаворы.

НА ЗДЫМКУ: генеральны дырэктар беларуска-германскага прадпрыемства "Белвест" Ларыса КУЗНЯЦОВА гутарыць з партнёрам па бізнесу.

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**

## СІТУАЦЫЯ

● **Валянціна МЕНЬШЫКАВА.**

# «ПАЎНОЧНАЯ МІСІЯ» — ПРЫПЫНАК НА ШЛЯХУ З ПЕКЛА

**Нядаўна Мінскі міжнародны адукацыйны цэнтр даў магчымасць прадстаўнікам каля 60 грамадскіх і рэлігійных арганізацый нашай рэспублікі наведаць Германію. Журналістам з дапамогай міжнароднага адукацыйнага цэнтра горада Дортмунда ўдалося наведаць дабрачынную арганізацыю "Паўночная місія", якая займаецца дапамогай жанчынам.**

Сапраўды, дарога ў пекла выкладзена добрымі намерамі. Наташа Р. з нядаўняга часу таксама так лічыць. А вось вяртанне з пекла каштавала неймаверных намаганняў. І ўсё ж той, хто жадае зноў набыць свабоду і павагу да сябе, знаходзіць такі шлях. Для жанчын, якія вырашылі парваць з прастытуцыяй, ён пачынаецца са звароту ў "Паўночную місію".

— Такая назва традыцыйная для цэнтраў рэабілітацыі ахвяр гандлю людзьмі ў многіх краінах Еўропы, — расказвае Рэгіна Уюзаль, супрацоўніца "Паўночнай місіі" з Дортмунда. — Яна прыйшла ў Германію з Англіі. Наша "Паўночная місія" існуе ўжо 82 гады. За гэты час яе супрацоўнікі дапамаглі многім тысячам прастытутак і тым, хто вымушаны займацца гэтай справай, вярнуцца да нармальнага жыцця. Пасля доўгіх пакут апынулася ў "Паўночнай місіі" Дортмунда і Наташа Р., 19-гадовая дзяўчына з Беларусі. Вось яе гісторыя.

Наташа — старэйшая сястра ў мнагадзетнай сям'і, якая жыве ў маленькай вёсачцы, размешчанай паблізу Мінска. Пасля заканчэння школы яна доўга шукала работу, ды так і не знайшла не толькі па месцы жыхарства, але і ў сталіцы. Аднойчы ёй трапіла на вочы аб'ява ў газеце, дзе прапаноўвалася работа ў Германіі ў якасці афіцыянткі. Гэта шанц, вырашыла дзяўчына. Ужо на наступны дзень яна паявілася ў мінскім агенцтве, якое зрабіла гэту аб'яву, падпісала адпаведны дагавор. Праз нейкі час вялікая прыгожая машына везла Наташу і яшчэ адну жанчыну ў Германію. Іх суправаджалі двое мужчын. Перад перасячэннем граніцы яны папрасілі ў пасажырак пашпарты, каб паставіць неабходныя пячаткі. Ды так і не вярнулі, а прымусілі перайсці ў іншую машыну, дзе сядзелі два туркі. Тыя даставілі жанчын у адзін з гарадоў ФРГ.

"Нас прывезлі на кватэру, дзе былі і іншыя жанчыны. Адна з іх, таксама беларуска, расказала мне, якую на самай справе работу я павінна выконваць", — гаворыць Наташа. Цяжка апісаць яе адчай. "Мы правялі ноч без вады і ежы, пад няспынным наглядам "гаспадароў". На наступны дзень туркі вярнуліся, і я заявіла ім, што ні ў якім разе не магу працаваць прастытуткай, бо дома ў мяне ёсць сябар, я кахаю яго і збіраюся за яго замуж. Але мужчыны толькі пасмяяліся з мяне.

Я не памятаю, як прайшлі наступныя дні. Калі пухліны ад пабояў на твары і на целе крыху сышлі, мяне прывезлі ў нейкі клуб, дзе я працавала прастытуткай. Мне было вельмі сорамна за ўсё, што я рабіла, але не было сіл, каб абараніць сябе, я была зломленая і змірылася з лёсам". Дзяўчыну можна зразумець: яна не ведала, дзе і колькі часу знаходзіцца, не мела ніякіх дакументаў і не размаўляла панямецку. А пры спробе ўцячы ёй пагражалі турмой за нелегальнае знаходжанне ў Германіі.

Дапамога прыйшла нечакана. Пры праверцы клуба паліцэйскія знайшлі Наташу і прывезлі яе ў "Паўночную місію".

— Мы маем свой кансультацыйны пункт, — расказвае Рэгіна Уюзаль. — Цяпер парадамі яго спецыялістаў карыстаюцца каля 600 жанчын, якія займаюцца прастытуцыяй, і тыя, хто гэтым ужо не займаецца. Шэсць супрацоўніц сацыяльнай службы, адміністрацыйны работнік і загадчыца гаспадарчай часткі "Паўночнай місіі" пастаянна кансультуюць жанчын. Спраў у місіі прыкметна прыбавілася, калі ў ФРГ "па лепшую долю" пачалі прыязджаць жанчыны з краін СНД. Многіх сілком прымушалі займацца прастытуцыяй. Дзяўчат трымалі ў бардэлях і нікуды не выпускалі. Рэдка каго вартавым парадку — паліцэйскім удавалася вызваліць з рук сутэнёраў. "Спачатку жанчыны не часта звярталіся да нас па дапамогу, бо іх запалохвалі судом і дэпартацыяй, — гаворыць Рэгіна Уюзаль. — А тыя, каго даставілялі паліцэйскія, звычайна былі збітыя, з сінякамі і апёкамі на целе. Ім вельмі была патрэбна спагада, і з імі было нямала праблем".

Галоўная праблема, паводле слоў Рэгіны Уюзаль, заключалася ў тым, каб даць няшчасным прытулак і схаваць іх ад праследаванняў сутэнёраў. Затым паўстала пытанне аб іх легалізацыі. І тут "Паўночная місія" дзейнічала паралельна з паліцыяй і пракуратурай Германіі. Сумеснымі намаганнямі яны дабіліся заканадаўчага вырашэння гэтай праблемы. Цяпер жанчыны легальна праходзяць працэс псіхалагічнай і сацыяльнай адаптацыі ў спецыялізаваных цэнтрах, іх не высылаюць з ФРГ да судовага працэсу над іх "заступнікамі", дзе яны выступаюць сведкамі. Атрымаўшы такую абарону, няшчасныя часцей пачалі звяртацца ў "Паўночную місію". Толькі за мінулы год звыш ста дзяўчат даверыліся яе супрацоўнікам, у той час як у 1998 годзе такіх чалавек знайшлося толькі 69 чалавек, прычым 11 з іх — грамадзяне Беларусі.

*Дортмунд — Мінск.*



СТРАТЭГІЯ ДЛЯ БЕЛАРУСІ

# БЕЛАРУСКІ ВЫБАР

## СЦЭНАРЫІ СЯРЭДНЕТЭРМІНОВАЙ ЭКАНАМІЧНАЙ І ПАЛІТЫЧНАЙ ТРАНСФАРМАЦЫІ БЕЛАРУСІ

**Варыянты развіцця Беларусі ў XXI стагоддзі залежаць ад таго, якую форму развіцця грамадства прымуць у якасці базавай лідзіруючыя эканамічныя і палітычныя эліты. Было б несправядліва лічыць, што даны выбар стане чыста элітарным працэсам. У адпаведнасці з сённяшняй палітычнай традыцыяй папулісцкі элемент пры прыняцці рашэнняў будзе захоўвацца пры любых варыянтах развіцця палітычнай сістэмы краіны, яе рэалізацыі ў канкрэтнай сітуацыі.**

**Леанід ЗАІКА,**
**прэзідэнт Аналітычнага цэнтра "Стратэгія".**

Змены на Беларусі непазбежныя. Пытанне заключаецца ў хуткасці і тэхналагічнасці пераўтварэнняў. Па гэтай прычыне важна сумясціць вектары эканамічнай і сацыяльнай палітыкі. Тэхналагічнасць заключаецца ў прафесійным выкарыстанні ліберальнага і сацыял-дэмакратычнага інструментарыя.

РЭАЛЬНАЕ развіццё падзей у бліжэйшыя 5—10 год вызначаецца тым, як беларускае грамадства будзе ідэнтыфікаваць сябе не толькі ва ўнутранай, але і ў знешняй палітычнай і эканамічнай прасторы. У значнай ступені гэта таксама дэтэрмінавана геапалітычным і геаэканамічным выбарам краіны. Строга гаворачы, усё больш значнай становіцца дылема: Захад ці Усход. Усходні вектар развіцця Беларусі заўсёды быў і будзе. Пытанне ў ступені самастойнасці такога выбару, яго функцыянальнасці і эфектыўнасці канкрэтных механізмаў узаемадзеяння дзвюх славянскіх краін.

Ацэнка сітуацыі 90-х гадоў і сучасны ход падзей даюць магчымасць сфармуляваць сярэднетэрміновыя перспектывы трансфармацыі эканомікі і грамадства.

Асноўныя варыянты развіцця Беларусі можна паказаць у выглядзе пяці мадэлей. Гэтыя альтэрнатывы могуць рэалізоўвацца не так ярка, паслядоўна і дакладна, але менавіта яны прысутнічаюць у сацыяльна-эканамічнай і палітычнай матэрыі сучаснасці і будучыні.

### МАДЭЛЬ № 1: "НЕАСАЦЫЯЛІСТЫЧНАЯ АЎТАРЫТАРНАЯ БЕЛАРУСЬ"

Сутнасць данага варыянта ў працягу таго курсу, які сфарміраваўся ў ходзе апошніх 3—4 гадоў і ўяўляе сабой сацыялістычныя традыцыі БССР у новай квазірынкавай і квазідэмакратычнай упакоўцы. Прэзідэнцкая рэспубліка будуецца на дамінаванні дзяржуласнасці, якая рэалізуецца блізкай да кіруючых колаў неанаменклатурай. Элементы грамадзянскага грамадства знаходзяцца ў эмбрыянальным стане. Правы чалавека і дэмакратычныя правілы жыцця існуюць фармальна. Эканоміка будуецца на прынцыпах адабрання рэсурсаў у эфектыўных прадпрыемстваў (іх не больш за 10—15 працэнтаў ад агульнай колькасці) праз падаткаабкладанне, рэгуляванне абменнага курсу і цэн.

У сацыяльнай сферы дамінуе патэрналізм і субсідзіарная сацыяльная палітыка. Ступень роўнасці ў грамадстве характарызуецца невысокім узроўнем дыферэнцыяцыі даходаў (3—4-разовы разрыў). Нізкія заробкі і пенсіі вызначаюць і субсідзіарны характар расходаў на жыллё, транспарт, грамадскія паслугі. Падтрымліваюцца адносіны з Расіяй і заходнім светам, але яны няроўныя, рэфлексіўныя. Узроўні жыцця і міжнароднага аўтарытэту нізкія, што, уласна кажучы, не з'яўляецца грамадска важным крытэрыем грамадства і дзяржавы.

Даны варыянт можа быць супастаўвімы з працэсамі развіцця сучаснага азіяцкага неасацыялізму (Кітай, В'етнам, Паўночная Карэя). Можна ўявіць яго як рэліктавую разнавіднасць еўрапейскага неасацыялізму. Пры ўсёй адыёзнасці такой мадэлі можна лічыць яе развіццё і як трыумф ідэі унікальнасці беларускага грамадства, што вельмі часта складае прадмет асаблівага гонару часткі прадстаўнікоў беларускіх палітычных эліт. Прычым не толькі тых, хто знаходзіцца ва ўладзе.

### МАДЭЛЬ № 2: "БЕЛАРУСЬ ЯК САСТАЎНАЯ ЧАСТКА РАСІІ"

Сутнасць данага варыянта заключаецца ў працягу існуючага курсу на інтэграцыю з Расіяй і стварэнне новай квазіагульнай дзяржавы (канфедэрацыі, саюза), што ўяўляе сабой уключэнне рэспублікі ў склад Расійскай Федэрацыі. Працэс такога ўключэння можа быць працяглым, але досыць паслядоўным. Крокамі па дэмантажу беларускага суверэнітэту становяцца меры па стварэнню валютнага рэгулявання з выкарыстаннем расійскага рубля, паступовае ліквідаванне інструментаў эканамічнай палітыкі ў беларускага ўрада і Нацбанка. Працэс дэсуверэнізацыі будзе ісці, калі прытрымліванца фармальна дэмакратычных працэдур (парламенцкіх рашэнняў, рэферэндумаў). У аснове такіх рашэнняў — рэальная адмова ад еўрапейскіх дэмакратычных традыцый і каштоўнасцей. Аднак сцвярджаць пра "неэўрапейскасць" такога шляху было б няправільна.

Інтэграцыя з Расіяй можа стварыць дзве мадэлі ўзаемадзеяння з еўрапейскімі краінамі. У першым варыянце гэта будзе мадэль супрацьдзеяння па тыпу "разам супраць". Другая мадэль уяўляе сабой сумесны рух у Еўропу. У гэтым выпадку пашыраецца супрацоўніцтва з Еўрасаюзам, НАТО і фарміруецца новы кантэкст узаемаадносін Беларусі ў рамках шырокага спектра адносін краін Усходу і Захаду. У цяперашні час Еўропа патрэбна Расіі больш, чым сённяшняй беларускай уладзе. Еўрапейскі вектар Расіі будзе ўзмацняцца. Для гэтага ёсць шмат падстаў, прычым не толькі палітычных.

Разам з тым пры ўмацаванні негатыўных тэндэнцый у адносінах Беларусі з еўрапейскімі краінамі Расія заўсёды будзе выконваць ролю своеасаблівага пасрэдніка, падтрымліваючы Беларусь у міжнародных арганізацыях. Цяжка чакаць асуджэння з боку Расіі парушэння правоў чалавека, свабоды мас-медыа ў Беларусі. Гэта таксама створыць спецыфічны фон еўрапейскага вектара славянскіх краін.

У эканамічнай сферы працэсы ўключэння Беларусі ў расійскую эканамічную прастору будуць мець як пазітыўныя, так і негатыўныя наступствы. Канешне, зараз Расія мае больш устойлівую грашовую адзінку, валодае практычна ўласнай эканомікай у прамысловым сектары. Менавіта таму беларуская эканоміка будзе вымушана мяняць свае якасныя характарыстыкі. Развіццё акцыянернага капіталу прывядзе да змены суадносін сіл у карпарацыях, асабліва тых, якія ў цяперашні час уяўляюць сабой спецыфічныя дзяржаўныя эканамічныя структуры. Ступень "рынкавасці" беларускай эканомікі, безумоўна, павысіцца.

Аднак прыход расійскага капіталу будзе суправаджацца адпаведным ростам крыміналізацыі, падзелам сфер уплыву, банкаўскімі войнамі і таму падобным. Беларускі бізнес будзе вымушаны з часам здаць свае пазіцыі буйному расійскаму капіталу. Сучасныя палітычныя эліты, уключаючы найвышэйшы ўзровень, у канчатковым выніку не змогуць абараніць у патрэбнай ступені свае эканамічныя інтарэсы. Беларускі бізнес знікне як нацыянальны эканамічны феномен. З пункту гледжання глабалізацыі гэта не з'яўляецца трагедыяй, але "правілы гульні" ў расійскім бізнесе далёка не бездакорныя, што прыўнясе спецыфічнае адценне ў эканамічнае жыццё грамадства.

Перспектывы сацыяльных адносін такія, што чакаць устойлівага павышэння ўзроўню жыцця ў выніку ўваходжання ў Расію не даводзіцца. Больш таго, прагназуем рост сацыяльнага расслаення, зніжэнне ўзроўню патэрналізму і субсідзіарнасці беларускага грамадства. У выніку эканамічных працэсаў дыферэнцыяцыя даходаў у Беларусі дасягне расійскіх параметраў, павялічваючыся да 13-кратнай велічыні. Магчымы і менш рэзкі пераход да дыферэнцыяцыі, і тады Беларусь ператвараецца проста ў еўрапейскую перыферыю Расіі, дзе будзе больш развітая інфраструктура бізнесу. Можна ўявіць у гэтым выпадку Беларусь як спецыфічную эканамічную зону Расіі. Зрэшты, такі падварыянт быў бы найлепшым (адносна данага сцэнарыя) для Беларусі. Не выпадкова некаторыя беларускія эксплікатары гавораць пра варыянт адносін тыпу Кітай — Ганконг. Пытанне толькі ў тым, хто будзе выконваць ролю Кітая, а хто Ганконга ў нашай дзіўнай сумеснай інтэграцыйнай супольнасці.

### МАДЭЛЬ № 3: "БЕЛАРУСКІ ВАРЫЯНТ ШОКАВАЙ ТЭРАПІІ"

Пры ўсёй прыхільнасці да пакрокавага тыпу развіцця і неардынарнай самаарыентацыі ў сістэме вектараў сучаснасці і будучыні Беларусь пры збегу акалічнасцей можа стаць пляцоўкай для ліберальнага эксперымента. 8—10 працэнтаў насельніцтва будзе гэта падтрымліваць. Прыход да ўлады рэфарматараў такога тыпу дасць магчымасць правядзення "шокавай тэрапіі".

Даны варыянт эканамічных і сацыяльных рэформ не мае значнай падтрымкі сярод насельніцтва краіны. Аднак можна змадэліраваць і такі варыянт рэзкай змены эканамічных правілаў гульні. У гэтых адносінах Беларусь зможа вельмі хутка адаптавацца да рынкавай рэгіянальнай сітуацыі. Жорсткая манетарная палітыка прывядзе да дамінавання цвёрдых валют (што зусім не так дрэнна) у фінансавых патоках, узрасце адкрытасць эканомікі і яе шматвектарнасць. Гэты варыянт можа стаць свайго роду адпрацоўкай мадэлі "усходнееўрапейскага Ганконга". Гіпатэтычна, канешне. Цяжка ўявіць сабе згоду нашых палітыкаў на ўстанаўленне такога рэжыму адкрытасці эканомікі і грамадства. Многія проста згубяць сваю ідэнтычнасць, прычым як славянскую, так і беларускую.

Правядзенне шокавай тэрапіі зойме 1,5—2 гады. Можна лічыць, што краіна эканамічна падрыхтавана да такога варыянта. Восем гадоў трансфармацый зрабілі сваю справу, і нам не трэба пачынаць лібералізацыю так, як гэта рабілі ў 1992 годзе. Усё-такі значная частка нашых эканамічных суб'ектаў, хатнія гаспадаркі ўжо навучыліся плаваць у халоднай вадзе рынкавага акіяна.

Самая вялікая складанасць пры здзяйсненні шокавай тэрапіі заключаецца ў "ломцы". Беларуская эканоміка і грамадства адчуваюць наркатычнае задавальненне ад выкарыстання танных энергарэсурсаў, якія атрымліваюць з суседняй краіны. "Пасадзіць" краіну на рэжым жорсткай эканоміі не хочуць палітычныя эліты. Яны проста разбэсцілі свой электарат, пасадзілі на субсідзіарную іголку. Шокавая тэрапія ў даным выпадку будзе самымі сур'ёзнымі і эфектыўнымі лекамі. З такога тыпу залежнасцю трэба змагацца рашуча. Па крайняй меры, спецыялісты рэкамендуюць паступаць рашуча, калі размова ідзе пра здароўе пацыента.

Варыянт "шокавай тэрапіі" не можа разглядацца ў якасці найбольш магчымага, але менавіта такая мадэль можа быць эфектыўна выкарыстана пры наяўнасці значнай кансалідацыі грамадства і замаруджванні рэформеннага трансфармацыйнага працэсу ў краіне.

### МАДЭЛЬ № 4: "БЕЛАРУСЬ ЯК ЧАСТКА ЕЎРАСАЮЗА І НАТО"

Менавіта даны варыянт больш за ўсё адпавядае выбранай мадэлі суседніх краін, перш за ўсё Літвы, Латвіі, Польшчы. Пры развіцці гэтай мадэлі Беларусь паступова дэманціруе неасацыялістычныя вынаходкі і фармаціруе нармальнае грамадзянскае грамадства. Ступень гатоўнасці для ўступлення ў НАТО і ЕС будзе вызначацца вынікамі рэформ у палітычнай і эканамічнай сферах. Вядома, пры такой кампазіцыі рашэнняў найважнейшай становіцца згода расійскіх палітычных эліт на самастойнае адплыццё Беларусі ў Еўропу. Гэта вельмі складаны варыянт рашэнняў. Больш практычным і верагодным можна ўявіць "сумеснае" ўваходжанне Расіі і Беларусі. Нядрэнным варыянтам можа стаць і такі, калі Беларусь ператвараецца ў свайго роду "еўрапейскую платформу" Расіі. Гэта было б выгадна і беларускім, і расійскім палітычным і эканамічным элітам.

Няма сэнсу акцэнтаваць увагу на спрыяльных выніках уваходжання ў Еўропу. Яны бачныя на прыкладзе Чэхіі, Польшчы. Але ёсць і негатыўныя наступствы. Значнай частцы насельніцтва давядзецца перагледзець свае каштоўнасці. Ці адмовяцца жыхары нашай краіны ад іх? Ці так ужо ўсе яны хочуць быць еўрапейцамі?

### МАДЭЛЬ № 5: "НОВАЯ БЕЛАРУСЬ У СТРАТЭГІІ РАЗВІЦЦЯ"

Варыянт, прапанаваны ў дакуменце "Стратэгія для Беларусі", — альтэрнатыва як курсу шокавай тэрапіі, так і безагляднаму ўваходжанню ў расійскую палітычную прастору. Сэнс гэтай мадэлі ў захаванні традыцый беларускага грамадства і яго мадэрнізацыі. Пытанне ў тым, якія інструменты і сродкі можна для гэтага выкарыстаць.

Стратэгічна арыентаваны ў Еўропу курс Беларусі можа быць аналагам суседніх краін, да ліку якіх адносяцца Польшча, Літва, Латвія. Гэта з аднаго боку. З другога, Беларусь павінна захаваць адносіны стратэгічнага партнёрства з Расіяй пры наяўнасці рэальнага палітычнага суверэнітэту і эканамічнай самаадказнасці. У выніку можна пераадолець сіндром "малодшага" брата, патэрналісцкі варыянт адносін дзвюх славянскіх краін.

Змены ў Беларусі непазбежныя. Пытанне заключаецца ў хуткасці і тэхналагічнасці пераўтварэнняў. Па гэтай прычыне важна сумясціць вектары эканамічнай і сацыяльнай палітыкі. Тэхналагічнасць заключаецца ў прафесійным выкарыстанні ліберальнага і сацыял-дэмакратычнага інструментарыя. Важна своечасова ўключаць адны метады, затым пераключацца з ліберальных тэхналогій на сацыяльныя. Магчыма, у такога роду майстэрстве і заключаецца сэнс прафесіяналізму эканамічнай палітыкі.

Пры рэалізацыі самастойнай "стратэгіі для Беларусі" працэс запуску і разгортвання рэформ можа здзяйсняцца ў тры цыклы, этапы. Спачатку патрабуецца адаптацыйны перыяд для фарміравання рынкавага асяроддзя, стварэння жорсткіх бюджэтных абмежаванняў, зніжэння ўзроўню субсідзіарнасці эканомікі і грамадства. Такі перыяд зойме 1,5—2 гады. Наступны этап — фарміраванне асноў эканомікі развіцця, што мае на ўвазе інстытуцыянальныя змены форм уласнасці, рэформу сацыяльных інстытутаў. Сэнс гэтых мер у тым, што беларуская эканоміка і грамадства становяцца ў сваёй аснове самадастатковымі, здольнымі ствараць канкурэнтныя тавары і паслугі пры існуючых тэхналагічных і фактарных абмежаваннях.

Для вывядзення Беларусі на міжнародны канкурэнтны ўзровень патрабуюцца ўжо не гады, а дзесяцігоддзі, і гэта стане трэцім этапам. Ён уяўляе сабой мадэрнізацыю і глабалізацыю. Канешне, і мадэрнізацыя вытворчасці, і глабалізацыя будуць часткова прысутнічаць на папярэдніх этапах трансфармацыі. Разам з тым найбольш эфектыўна працэсы мадэрнізацыі і глабалізацыі могуць развівацца пры адпаведнай падрыхтаванасці краіны.

Такім чынам, падводзячы вынікі разгляду асноўных варыянтаў развіцця краіны ў наступныя гады і дзесяцігоддзі, належыць асабліва падкрэсліць, што канчатковы нацыянальна-дзяржаўны выбар Беларусі яшчэ не адбыўся. Яго прыйдзецца рабіць. Менавіта сённяшняму пакаленню. Схавацца за кагонебудзь ці за нешта не ўдасца.

## ЗАЎТРА ПАЧЫНАЕЦЦА СЁННЯ



● Сяргей ХАЛАДЗІЛІН.

Здаецца, зусім звычайнае на від гэтае дзіця Вадзім ІВАНЕНКА, а паспявае і на фартэпіяна іграць у гомельскай дзіцячай музычнай школе імя П. Чайкоўскага, і ўрокі спеваў наведваць, дзе беларускія народныя песні выконвае, і проста ў звычайнай сярэдняй школе № 14 быць адным з лепшых шасцікласнікаў. А нядаўна выступаючы на фестывалі "Песні юнацтва нашых бацькоў" — стаў лаўрэатам.

## ВЯРТАННЕ З НЕБЫЦЦЯ: Мікола ГВАЗДОЎ

Мікола Гваздоў (Мікалай Васілевіч). Паэт. Нарадзіўся 1 чэрвеня 1916 года ў Полацку ў сям`і служачых (але па невядомых прычынах дзяцінства правёў у дзіцячым доме). Вершы пачаў пісаць у трынаццаць гадоў. У 1933 годзе паступіў у Белпедінстытут. У 1935-м М. Гваздоў перавёўся на завочнае аддзяленне і паехаў працаваць настаўнікам у Чэрыкаўскую школу.

13 сакавіка 1936 года М. Гваздова арыштавалі на кватэры яго сябра Пятра Хатулёва, да якога ён прыехаў пагасціць. Пры арышце канфіскаваны: "Документальная переписка, блокноты со стихами, черновики стихов, рукописи стихов. Книги: Дж. Лондон, У. Хадыка, словарь Байкова-Некрашевича..."

З адказаў вучняў Чэрыкаўскай школы на пытанні следчых з НКУС: "Учитель Гвоздов читал нам лекции о русской литературе..." На экзамене, для разбора междометия, перефразировал: "Ура! (вместо — Прощай!). Немытая Россия, страна рабов, страна господ!.. Советские пятилетки называл фантазией... Больше всего любит Есенина и Клюева".

Восенню 1937 года Міколу Гваздова асудзілі ("за контрреволюционную агитацию") да 5 гадоў пазбаўлення волі і этапіравалі ў Варкуту.

У часопісе "Шыпшына" (1947, № 5) Юрка Віцьбіч пісаў: "Праз некаторы час яго (М. Гваздова. — **Л. М.**) сябры атрымалі кароткі ліст з просьбай: "Прышліце мне гальштук..."

Гэтая страшная просьба не патрабуе тлумачэнняў..." Згадвае "пра гальштук" у сваёй кнізе "Раман Карзюк" і Масей Сяднёў.

Далейшы лёс Міколы Гваздова невядомы.

Рэабілітавалі паэта толькі праз 50 (!) гадоў.

**Падрыхтаваў Л. МАРАКОЎ.**

### ШЧЫРАСЦЬ

**Ціха і ласкава**
**з цёплай спагадай —**
**бачыш! —**
**У вокны заглядвае вечар.**
**Я не хаваю вялікую радасць —**
**радасць ад нашай сяброўскай сустрэчы.**

**Ты маладая,**
**і я малады.**
**Многа агня ў нашай полымнай шчырасці.**
**Часта не згодзен з табою я.**
**Тады —**
**сёння пасварымся —**
**заўтра — памірымся...**

**Дай мне руку.**
**Паглядзім, хто мацней.**
**Я фізкультурнік,**
**і ты фізкультурніца.**
**Помніш! —**
**аднойчы хваліліся мне,**
**быццам ты брала рэкорды ў спаборніцтвах.**

**Дай наглядзецца ў вачэй тваіх неба.**
**Дай дакрануцца да кволасці вуснаў.**
**Ты, дарагая, злуешся!**
**Не трэба.**
**Я не люблю, калі позірк твой хлусіць.**

**Ты маладая,**
**і я малады.**
**Як-жа стрымаць маладосці задзірыстасць!**
**Ты, вось, не згодна са мной!**
**Што-ж! Тады —**
**будзем сварыцца,**
**А потым... памірымся.**

*Менск, 1934 г.*

## ВАНДРОЎКА З Ігарам ГАТАЛЬСКІМ

# ПЛЫВУЦЬ З-ПАД СВЯТОЙ ГАРЫ

### ВУСА

Калі задаць беларусу пытанне: "Якая рака з`яўляецца сімвалам нашага народа?", напэўна, большая частка адказаў будзе: "Нёман". Так, праславілі яго Адам Міцкевіч і Уладзіслаў Сыракомля, Эліза Ажэшка і Якуб Колас... Многія нашы рэкі сталі своеасаблівымі літаратурнымі знакамі Беларусі — славуты Нёман, Чачотава Мышанка, Драздовічава Мнюта, Ясельда Жэні Янішчыц, Караткевічаў Дняпро, Барадулінава Ушача, карамазаўскі Сож. Паспрабую далучыць сюды і Вусу — тую, што пачынаецца з брыўстых крыніц на схілах Святой гары — самага высокага месца Беларусі.

На самай справе Вуса нават больш літаратурная рака, чым Купалава Гайна, бо ля берагоў Вусы нарадзіліся Кандрат Крапіва, Паўлюк Трус, Пятро Глебка, Лідзія Арабей.

Калі зірнуць на геаграфічную карту Міншчыны і знайсці Вусу, можна заўважыць, што акурат яна з`яўляецца самай доўгай (у параўнанні з Нёманцам і Лошаю) ракой, што ўтварае потым Нёман. Таму можна далучыць да паэтычнай славы бацькі Нёмана і ягоны найбуйнейшы выток Вусу. З гэтай нагоды Юрка Віцьбіч пісаў:

"...Скуль пачынаецца Нёман, дагэтуль дакладна невядома. Бальшыня навуковых даследаваньняў і народных паданьняў даводзяць, што цяперашняя рэчка Вуса, якая цячэ з-пад Сьвятое Гары і прачула апяная Алесем Салаўём, калісьці менавалася Нёман, другія тое ж самае сьцьвярджаюць наконт рэчкі Вузьдзянкі,.. трэйція сьведчаць, што гэта мястэчка Лоша спрычынілася да пераймёнаваньня Нёману ў рэчку Лошу, і нарэшце чацьвёртыя прыпушчаюць, што рэчкі Вуса і Лоша, спалучыўшыся разам, нараджаюць Нёман... І няхай хтосьці ды дзесьці спрачаецца аб тым — скуль паходзіць Нёман. Сам народ заўсёды самае дарагое для сябе шанаваў як Сьвятое. Плыве з-пад Сьвятое Гары Нёман".

### ПЦІЧ

Святая (з 1958 года Дзяржынская) гара — гэта не толькі найвышэйшае месца Мінскага ўзгор`я і ўсяе Беларусі. Гэта самы высокі пункт вялікага еўрапейскага вадападзелу на ўсёй Усходнееўрапейскай раўніне. З Мінскага ўзгор`я пачынаюцца рэкі, што потым робяцца вялікімі і мнагаводнымі. Вусою пачынаецца са Святой гары Нёман, які цячэ да Балтыкі. А за некалькі кіламетраў ад тых крыніц пачынаецца ручаінка Пціччок — выток Пцічы, што цячэ ў бок Чорнага мора. У IX—X стагоддзях адна з галін вялікага водната шляху "з варагаў у грэкі" праходзіла якраз па Пцічы. Сведчанне таму — шматлікія курганы ў міжрэччы Пцічы і Вусы, вытокі якіх знаходзяцца побач. Сведчанне таму — і назва ракі Прыпяць, у якую ўліваецца Пціч. Ёсць меркаванне, што, паколькі галоўнымі рэкамі ў старажытнасці лічыліся гандлёва-транспартныя, то сваю назву Прыпяць (Прыпець) у сярэднім цячэнні атрымала ад таго, што знаходзілася яна пры рацэ Пець, якой і была ў даўніну Пціч. У сваю чаргу, індаеўрапейскае "пет" азначала "пашырэнне, расцяканне".

Тэрыторыя сухапутных волакаў у вярхоўі Пцічы кантралявалася буйным умацаваным пунктам Менескам на рацэ Менцы — прытоку Пцічы. Памятае Пціч спаленне Менеска кааліцыяй князёў Кіеўскай Русі Яраславічаў у пачатку 1067 года. Не паспеў тады полацкі князь Усяслаў прыйсці на дапамогу Менеску. Пастаянная варожасць полацкіх і кіеўскіх князёў прывяла да таго, што водны шлях па Пцічы, якая перасякала межы Полацкай, Тураўскай і Кіеўскай земляў, стаў небяспечным, і большую гандлёвую ролю ўзяла на сябе Свіслач, якая цякла цалкам па ўскраіне Полацкай зямлі. Тысячагадовай даўніны курганы, што ланцугом працягнуліся па тэрыторыі між Пціччу і Свіслачу на поўдзень ад Мінска, указваюць на накірунак гандлёвага шляху ў тыя часы. Гістарычнае развіццё беларускіх земляў, іх уваходжанне ў Вялікае княства Літоўскае абумовілі тое, што рака Пціч ужо не перасякала дзяржаўных межаў.

Пціч — самы доўгі левы прыток Прыпяці, цячэ цалкам па тэрыторыі Беларусі, па цэнтральна- і паўднёва-беларускай глыбінцы. На Пцічы няма вялікіх гарадоў. Толькі два мястэчкі Глуск і Капаткевічы ды шматлікія вёскі прытуліліся да яе берагоў. Такі глыбінны характар Пцічы абумовіў тое, што на яе берагах не пралілося столькі крыві, як, напрыклад, на Нёмане ад крыжакоў, на Дзвіне ў Полацкую вайну, на Прыпяці і Дняпры — у часы казацкіх набегаў сярэдзіны XVII стагоддзя. У гэтым сэнсе Пціч можна параўнаць з французскай Луарай, на якой у адноснай бяспецы тамтэйшыя каралі і магнаты будавалі сабе замкі ды палацы. На берагах нашае Пцічы таксама было шмат пышных рэзідэнцый заможных гаспадароў, ды былі яны ў большасці драўляныя, і захаваліся ад іх, у лепшым выпадку, старыя сядзібныя паркі.

Вялікія зборы старадрукаў, карцін, старасветчыны захоўваліся на пцічанскіх берагах у маёнтках Строчыца Држневічаў, Прылукі Чапскіх, Русінавічы Уняхоўскіх, Ігнацічы, Дудзічы і Замосце Ельскіх, Ганопаль Радзівілаў, Цітва Янішэўскіх, Русаковічы Вейсенгофаў... Уладальнікамі пцічанскіх земляў былі яшчэ Валадковічы, Глябовічы, Свіды, Оштарпы, Халецкія, Быхаўцы, Вітгенштэйны, Пузыны, Быкоўскія і іншыя. Так, падзабыты польскамоўны асветнік-сентыменталіст Ігнацій Якса Быкоўскі (1750—1817) нарадзіўся і пачаў займацца літаратурай у надпцічанскай Пяцеўшчыне. У сутарэннях Дудзіцкай царквы сярод Заранкаў, Ельскіх, Празараў, Ліпскіх была і труна Францішка Букатага (1747—1797).

Працяг будзе.

## ГАЛЕРЭЯ МАЙСТРОЎ

# МАР'Я-ЧАРАЎНІЦА



Абставіны не дазволілі мінчанцы Марыі Кашкан закончыць вышэйшую мастацкую навучальную ўстанову і атрымаць дыплом. Але лепш за любыя дыпломы народную майстрыху характарызуюць яе работы — прыгожыя "лясныя" скульптуры, саламяныя вырабы.

З галінак ясеню, каранёў бярозы і ліпы з дапамогаю разца, пэндзля, лаку і фарбаў яна ўмее выраблiць такія скульптурныя кампазіцыі, што ў народзе пра яе замацавалася слава Мар'і-чараўніцы з вядомай казкі. Свае работы майстрыха не прадае. А вось палюбавацца на іх — калі ласка. У розныя гады яны дэманстраваліся на выставах у Мінску. Ды і "галерэя" ў кватэры не зачынена для жадаючых.

Амаль усе "лясныя" скульптуры майстра ўзвышаюць вобразы Жанчыны, Маці, Прыгажосці. Дрэва такое падатлівае ў яе руках, што ўдаецца перадаць самыя тонкія нюансы настрою сваіх герояў, глыбокадумных, сумных, адухоўленых.

Спачатку Марыя Аляксандраўна працавала выключна над свaімі ляснымі знаходкамі. Захапленне саломкай, керамікай, жывапісам прыйшло пад уплывам дачкі Святланы. Яна прафесійны мастак-жывапісец, а дома ў вольны час яшчэ займаецца і пляценнем, інкрустацыяй, апплікацыяй з саломкі. Гэтыя ж старажытнымі беларускімі народнымі промысламі нядаўна, калі выйшаў на пенсію, не ў жарт зацікавіўся і муж Марыі Кашкан Аляксандр Уладзіміравіч. Такія саламяныя капялюшыкі з яго рук выходзяць — люба-дорага. Талент, лічыць Марыя Аляксандраўна, кожнаму даецца ад Бога. Але адзін яго выкарыстае, а іншы ў жыццёвай трасіне патопіць і не заўважыць.

Нарадзілася Марыя Кашкан у вёсцы Вызна пад Слуцкам. Бацька — старшыня сельсавета, маці — простая сялянка. Дзядуля Іван па мацярынскай лініі лічыўся вялікім вандроўнікам. Яшчэ да вайны паехаў у пошуках прыгод і заработку ў Амерыку і прапаў. Засталася бабуля Сцепаніда пры дачцэ і сваю любоў аддала ўнучцы. Песціла, але і вучыла ткаць, вязаць, вышываць. Разам яны рабілі з саломкі і трэсак птушак і аленей. Іх падвешвалі на налічніках каля вокнаў як засцярогу ад нячыстай сілы. Выразвалі з паперы ажурныя рознакаляровыя фіранкі на вокны — так званыя "выцінанкі".



Беражліва захоўвае Марыя Аляксандраўна жоўты ад часу фотаздымак, з якога на яе глядзіць бабуля Сцепаніда — маленькая, сухенькая, а твар быццам свеціцца. Захаваўся і куфэрак з бабулінымі тканымі ручнікамі, саламянымі "павучкамі" і "буслямі". З іх унучка, якая сама ўжо даўно стала бабуляю, чэрпае натхненне для сваёй творчасці. А ў цяжкую хвіліну, калі сум сціснe сэрца, адкрые Марыя куфэрак, палюбуецца сваёй бясцэннай спадчынай — і туга адступае.

Некалькі гадоў назад сям`я Кашканаў набыла дачу ў маляўнічай вёсцы Туленка, што за 60 кіламетраў ад беларускай сталіцы: садзік, агародзік, кветкі. А ў доме на сценах развешаны карціны — работы Марыі Аляксандраўны і яе дачкі. На налічніках саламяныя буслы — на шчасце. І "выцінанкі" на вокнах. Такія ж, як раней у роднай хаце.

Суседзі, праходзячы міма дома Кашканаў, звяртаюць увагу, як доўга ў вокнах не гасне святло. А калі зазірнуць на агеньчык, убачаць шмат дзяцей. Сядзяць яны чынна за сталом, і кожны нешта майструе або з натуры малюе кошку. Марыя Аляксандраўна ім дапамагае спазнаць усе таямніцы старажытных народных промыслаў. Цягнуцца сельскія дзеці да майстра. Яна і рада.

Вось і цяперашні вясной творчых планаў і задумак у Марыі Кашкан — на ўсіх хапае...

**Таццяна ХРАПІНА.**
**Фота Зінаіды МІШУРА.**



## ХРЫСЦІЯНСКАЯ СТАРОНКА «ЖЫЦЦЁ І ВЕРА»





**Напярэдадні праваслаўнага Вялікадня ў Віцебску ў мікрараёне Поўдзень-7 узведзены храм апостала Андрэя Першазванага (на здымку).**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**

## ПЕРАКЛАД СВЯТОГА ЕВАНГЕЛЛЯ

● **Алена ЯСКЕВІЧ**, *член Біблейскай камісіі па перакладу Св. Пісання на беларускую мову.*

На багаслоўскім тэалагічным факультэце Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта адбылася прэзентацыя "Святога Евангелля паводле Марка", перакладзенага на беларускую мову Біблейскай камісіяй Беларускай праваслаўнай царквы пры чынным удзеле Біблійнага таварыства Беларусі.

Раней, на пачатку 90-х гадоў, быў выдадзены пераклад "Святога Евангелля паводле Мацвея". Згодна з традыцыяй, тэкст Святога Евангелля ў кнізе пададзены на чатырох мовах: грэчаскай, царкоўнаславянскай, рускай і беларускай. У канцы выдання змяшчаюцца тэксталагічныя разыходжанні ў грэчаскіх выданнях "Евангелля паводле Марка", што сведчыць аб карпатлівай навукова-даследчай рабоце Біблейскай камісіі. Зараз вядзецца пераклад на беларускую мову "Евангелля ад Лукі".

У час працы над перакладам камісія сустрэлася з феноменам малой распрацаванасці ў сучаснай беларускай мове сакральнага ўзроўню лексікі. Загадчык кафедры славістыкі БДУ, доктар філалагічных навук І. Чарота адзначыў, што за дзесяцігадовы прамежак часу Біблейская камісія на чале з Уладыкам Філарэтам і яго намеснікам настаяцелем Петрапаўлаўскага сабора Мінска протаіерэем Георгіем Латушкам дасягнула саборнасці, пазбегла абнаўленства, захавала вернасць кірыла-мяфодзіеўскай традыцыі перакладу пры ўліку міжканфесійных нацыянальных багаслоўскіх традыцый. Лексічныя знаходкі камісіі правяраліся на шырокай навучэнскай аўдыторыі. Паралельна з перакладам вялася і багатая даследчая праца па выданні часопіса "Праваслаўе", царкоўных календароў, дзе апрабіраваліся пераклады літургічнай лексікі, выдаваліся манаграфіі ўдзельнікаў камісіі, сярод іх падрыхтаванае да друку даследаванне І. Чароты "Беларуская мова і царква".

У прэзентацыі прымаў удзел не толькі клір праваслаўнай царквы, сябры брацтва, але і іерархі ўсіх хрысціянскіх цэркваў, члены Біблійнага таварыства Беларусі, зацікаўленыя навукоўцы. Перад імпрэзай і на заканчэнне спяваў хор хлопчыкаў пад кіраўніцтвам Тасі Міронавай.

## ЦАРКВА Ў ДВАРЫ



● **Раман КАБЯК.**

Пяць гадоў назад вырашыў адмовіцца ад паездак да бліжэйшай царквы жыхар вёскі Ганчары Пінскага раёна Рыгор Бондзіч. Лепш, палічыў ён, паставіць сваю ў двары. І за год царкаўка ім была пабудавана. Яе асвяціў епіскап Пінскі і Лунінецкі Стэфан, наведваў Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі, які ўзнагародзіў Рыгора Максімавіча ад імя Аляксія ІІ ордэнам прападобнага Сергія Раданежскага.

НА ЗДЫМКАХ: тут можна паставіць свечку і памаліцца Богу, а па святах праводзяцца службы; Рыгор Максімавіч каля сваёй царквы.



## ДАБРАЧЫННАСЦЬ

**НАЧЫННЕ І РЭЧЫ ЦАРКВЫ-ПОМНІКА БУДУЦЬ АДПАВЯДАЦЬ ЧАСУ ЯЕ ПАБУДОВЫ.** У Сынковічах у саслужэнні святароў Слонімскага, Зэльвенскага, Ваўкавыскага і іншых прыходаў па блаславенні епіскапа Гродзенскага і Ваўкавыскага Арцемія праведзена асвячэнне іканастаса мясцовай Сынковіцкай (Міхайлаўскай) царквы.

Царква пасля атэістычнага смерча была вернута да жыцця ў 1990 годзе. Тады і быў асвячоны храм і царкоўнае начынне. Аднак царква-крэпасць, помнік абарончага тыпу, знаходзіцца пад аховай дзяржавы як архітэктурнае збудаванне канца XV—пачатку XVI стагоддзяў. Храм мае рысы стылю готыкі.

Справа вось у чым. Збудаваны раней слонімскім майстрам іканастас не адпавядаў начынню царквы гадоў сівой мінуўшчыны XV —XVI стагоддзяў. Праз некаторы час, у 1993 годзе, падчас прыезду і правядзення святочнай літургіі з нагоды свята Увядзення ў храм Прасвятой Багародзіцы Мітрапалітам Мінскім і Слуцкім Філарэтам, Патрыяршым Экзархам усяе Беларусі, разам з ім наведаў і пабываў на багаслужэнні ў гэтай знакамітай царкве тагачасны міністр замежных спраў Беларусі П. Краўчанка, які перадаў ахвяраванні ад нашага суайчынніка з Кліўленда (ЗША) Анатоля Лук'янчыка на патрэбы храма. Анатоль — заможны чалавек, мае завод па вырабу кандыцыянераў для кватэр. І вось праз некалькі гадоў заказаны ў мастацкай майстэрні горада Мінска іканастас, які адпавядае аздабленню царквы XV—XVI стагоддзяў, устаноўлены і асвячоны ў Сынковіцкай (Міхайлаўскай) царкве.

Дарэчы, маркі з адлюстраваннем Сынковіцкай царквы — сусветна вядомага помніка абарончага дойлідства канца XV — пачатку XVI стагоддзяў знаходзяцца ў паштовым абарачэнні рэспублікі.

Паштовая марка вартасцю 5 000 недэнамінаваных беларускіх рублёў выпушчана тыражом 2 мільёны экземпляраў і з'явілася ў паштовым абарачэнні напрыканцы 1998 года, але калекцыянеры маюць і больш прыгожы выгляд царквы-крэпасці таксама на паштовай марцы 700 (недэнамінаваных) рублёў, якая была выпушчана ў абарачэнне ў 1994 годзе. Такім чынам, Сынковіцкая царква адлюстравана добра — як фасад будынка, так і апсіда гэтай старажытнай царквы.

**Пётр ЖЭБРАК.**

# ПРА МАНАХІНЬ, ЯКІЯ РАТУЮЦЬ ДУШЫ

**На ўсё жыццё Аляксандр Зарко запомніў, як некалі ў яго роднай вёсцы на Віцебшчыне разбуралі царкву і палілі іконы. Зусім яшчэ хлапчук, ён ледзь не плакаў — так шкада было назаўсёды развітвацца са старажытным велічным храмам, пад гукі званоў якога добра марылася, спакойна рабілася на душы... Вось тады ён і вырашыў, што абавязкова дапаможа будаваць храм.**

● **Таццяна ХРАПІНА.**

Аляксандр Трафімавіч — урач-псіхіятр з багатай практыкай, заслужаны ўрач Беларусі, апошнія трыццаць год узначальвае рэспубліканскую клінічную псіхіятрычную бальніцу. І ўсё ж чыстым матэрыялістам Зарко не назавеш. Душа — нябесная госця, і ён разумее, што хворы чалавек мае патрэбу ў размове з Усявышнім, магчыма, нават болей, чым у леках. Хвораму і залаты ложак не дапаможа, але душу лечыць малітва, царкоўнае песнапенне.

"А чаму б не пабудаваць у бальнічным гарадку, што раскінуўся на 19 гектарах, праваслаўны храм, яшчэ адну лячэбніцу душэўную? — падумаў аднойчы галоўны ўрач. — Бо здаўна ж на Русі паспяхова вылечвалі такіх хворых у манастырах, дзе днём яны працавалі, а раніцу і вечар праводзілі на набажэнстве". Гэтымі сваімі думкамі падзяліўся з айцом Андрэем, святаром Мінскага сабора Пятра і Паўла. Той часта прыходзіў у бальніцу, каб прычасціць, пасабораваць хворых у палатах...

Айцец Андрэй прапанову галоўнага ўрача адобрыў. Будматэрыялы яны закупілі на ахвяраванні. Будаўнікоў-падсобнікаў Зарко з "залатога фонду" выдзеліў. Так галоўны ўрач ахрысціў хранічна хворых і алкаголікаў — пацыентаў клінікі. У народзе нездарма гавораць: "П'яніца праспіцца і на справу згадзіцца". Вядомая справа — майстравыя людзі ў чарку заглядваюць. У запоі хварэюць, а ў здаровым стане, хто будаўнічых спраў майстар, — будуюць... Акрамя таго, працатэрапія — выдатны, правераны спосаб лячэння.

Справы на месцы не стаялі, і вось ужо прыгожы велічны храм з манастырам прападобнай пакутніцы Елізаветы імкліва ўзнёс свае купалы ў неба побач з высокім шэрым плотам, на самым высокім месцы ў пасёлку Навінкі. Пакуль ішло будаўніцтва, айцец Андрэй служыў у малельні, абсталяванай на першым паверсе псіханеўралагічнага дыспансера, дзе людзі жывуць гадамі. Цяпер тут ідзе служба толькі па пятніцах, у астатнія дні — у новым храме прападобнай пакутніцы Елізаветы. Сюды прыходзяць не толькі хворыя, але і жыхары Навінак. Дзеці збіраюцца ля амбону, і твары іх святлеюць.

У бальніцы за год праходзяць лячэнне больш за 20 тысяч чалавек.

— Ад такой немачы зараз ніхто, на жаль, не застрахаваны, — гаворыць ігумення Елізавета. — У клініцы ў Навінках можна сустрэць і прафесара, і мастака, і артыста, і настаўніка, і юрыста... Па статыстыцы, у нашай краіне 300 тысяч чалавек маюць патрэбу ў псіхіятрычнай дапамозе. Людзі імкнуліся ўсё паспець, усё мець і не заўважылі, калі адбыўся надлом у душы. Да таго ж, пастаянныя стрэсы дома і на працы, шалёны рытм жыцця, адзінота, іншыя адмоўныя эмоцыі выклікаюць дэпрэсію, суіцыд. І калі з'яўляюцца думкі пра бессэнсоўнасць існавання, значыць, душу трэба спешна лячыць. Вось мы і імкнёмся дапамагчы ўсім, хто да нас прыходзіць. Нішто не здымае так груз з душы, як споведзь, малітва.

Матушка-ігуменя ў мінулым сваім мірскім жыцці была мастачкай, ёй крыху больш за трыццаць. Астатнія дваццаць сясцёр-манахінь прыблізна ў тым жа ўзросце або і маладзейшыя. Нехта з іх раней працаваў інжынерам, хтосьці — музыкантам, настаўнікам, медыкам. Вось, напрыклад, сястра Праксэда (Лілія), якая прыняла нядаўна пострыг, раней працавала санітаркай у гэтай бальніцы. Яна і зараз па-ранейшаму тут працуе кожны дзень. Але, канешне, ёсць у яе цяпер і іншыя клопаты.

Манахіні для галоўнага ўрача — проста выратаванне. Не хапае ўрачоў, нянечак і гаспадарчых рабочых. Цякучасць кадраў — 350 чалавек у год — няшчасце бальніцы. Але ці можна асуджаць маладзенькіх медсясцёр, якія прыходзяць сюды адразу з вучылішча? Жыццярадасным, вясёлым, ім даводзіцца сутыкацца з людзьмі, што адмаўляюцца жыць; маральныя, псіхалагічныя нагрузкі ў аддзяленнях судова-псіхіятрычнай экспертызы і наркаманіі не меншыя, чым на падводных лодках у момант пагружэння. Невялікі заробак з мізэрнай дабаўкай за шкоднасць — кадры не замацоўвае. І калі б не манахіні, то з гэтага становішча не было б выйсця. Сціплыя, цярплівыя, непатрабавальныя да ўмоў, яны не адмаўляюцца ад працы. Вырашыўшы прысвяціць сваё жыццё Богу, а гэта значыць людзям, манахіні працуюць у палатах, прыёмным пакоі, на кухні. Толькі тых, хто здольны забыцца пра сябе, жыць дзеля людзей, Гасподзь шчодра надзяляе духоўнымі пладамі.

Хутка пры манастыры прападобнай пакутніцы Елізаветы адкрыюцца ўнікальныя майстэрні іканапісу, металапрацоўкі, сталярны і швейны цэхі. Але галоўнай тут лічаць працу ў бальніцы. Адзін дзень манахіні даглядаюць хворых, наступны — стаяць у пераходах, на рынках, вакзалах — збіраюць ахвяраванні на храм. Шмат часу яны праводзяць у малітвах. Моляцца самі і навучаюць таму ж сваіх падапечных. Словы гэтых малітваў простыя і немудрагелістыя: "Госпадзі, накіруй мяне мудрасцю тваёй. Абарані і ўмацуй. Даруй грахі і слабасці..." Галоўнае, каб дайшлі яны да сэрца цяжкахворага чалавека. І пасялілі веру, надзею. Напоўнілі святлом душу.

## ЛІТАРАТУРНАЯ ГАСЦЁЎНЯ: ПЕРАКЛАДЫ З АНГЛАМОЎНАЙ ПАЭЗІІ Алены ТАБОЛІЧ




**Алена ТАБОЛІЧ нарадзілася ў вёсцы Горна на Зэльвеншчыне. Скончыла Мінскі дзяржаўны лінгвістычны універсітэт, дзе і працуе выкладчыкам на факультэце англійскай мовы. Кандыдат філалагічных навук, дацэнт. Вывучае праблемы параўнальнай лінгвістыкі. З вершамі і перакладамі англійскіх і амерыканскіх паэтаў выступала ў перыядычным друку. Адна з аўтараў-складальнікаў "Англа-беларускага слоўніка" (1989) і "Кішэннага англа-беларускага слоўніка" (1995).**



**РОБЕРТ БРЫДЖЭС**
**(1844—1930)**

### *САЛАЎІ*

Мабыць, грымяць ад гімнаў
тыя горы,
адкуль вы родам,
Там ручайкі імчацца, іх песні
ў зялёных долах
Вы пачулі.
Дзе ж зорныя лясы?
Каб мог блукаць там я
Сярод чароўных кветак,
якім цудоўнае паветра
Дае жыццё ўвесь год!

Не, горы апусцелі,
а ручайкі засохлі.
І наша песня — плач пакутнага
жадання,
што сон наш гоніць
Ды сэрца боль.
А іх таемныя
І мроі, і чаканні,
Ніякай інтанацыяй, ніякім рытмам
Нельга перадаць.

Да вас, захопленых вандроўнікаў,
даносім мы
Усе сакрэты ночы,
а пасля,
Калі ўжо ноч адступіць,
З лугоў мядовых,
з травеньскіх лясоў,
Мы спім, пакуль пяюхі
дзённых хораў
Світанак сустракаюць.

**РУПЕРТ БРУК**
**(1887—1915)**

### *ЗМЕНЛІВАСЦЬ*

Ёсць нейкі дзіўны свет там,
на нябёсах,
Непадуладны ані дню, ні ночы.
Там Праўда, Вера, Мудрасць,
Дабрыня
Зліліся ў вечнай згодзе ў сваіх
лёсах.

І толькі цень ад іхняга святла
Нас грэе на зямлі,
дзе сумна й горка.
Там зорка прыгажосці,
нязгаснага кахання зорка
Для сэрцаў закаханых узышла.

Уздыхаем, усміхаемся,
цалуемся,
Ды пацалунак той нявечны,
як і позірк.
Прытулак для кахання —
наша сэрца.
Як лёгкія саломінкі, ўсплываем
у цёмнай плыні.
Прытулімся, ізноў каб адысці
у вечнасць.
Смех памірае з вуснамі.
Каханне памірае з любай.

**РОБЕРТ БЁРНС**
**(1759—1796)**

### *ПРЫГОЖЫ ЗВАНОЧАК*

Вясна прыходзіць з радасцю,
з усмешкай,
А хмурая Зіма не хоча
адыходзіць.
З гор крышталёвыя струменьчыкі
імчацца.
Яснюткія нябёсы, дзе сонца
ўзыходзіць.
Празрысты ранак прабіваецца
праз горы,
Пад вечар сонца з хвалямі гуляе.
Усё жывое радуецца сонцу,
Ды дзе ж званочак любы мой
блукае?

Квяцістая Вясна вядзе пад руку
Лета,
І хутка Восень золатам заззяе.
Панурая Зіма уселася
на ўзгорках,
Пакуль Вясна ў пупышках
набрыняе.
Ў нязменным і вясёлым карагодзе
Змяняюцца ўвесьчасна кварты
года,
Нязменна толькі я любуюся
званочкам,
Якою б ні была прырода.

**УІЛЬЯМ ДЭЙВІС**
**(1871—1940)**

### *АДПАЧЫНАК*

І што з таго жыцця, калі ў турбоце
Яно мінаецца, усё ў рабоце.
Не маю часу адпачыць пад дрэвам
Ці падзівіцца ўсім лясным
напевам.
Няма нат часу пасядзець
хвілінку —
Вавёрачку спужаць або сарваць
былінку.
З дарог імклівых я ніяк не збочу,
У ручаі каб зоркі ўбачыць ноччу.
Не маю часу адгукнуцца рэхам —
Заўжды і ўсюды спехам, спехам
спехам.
Няма мне часу ні ўначы, ні днём
З табою паспрачацца, ўсё бягом.
Каханкі позірк ёсць спаймаць нам
час,
Калі як пава пройдзе міма нас?

Ох, беднае жыццё, калі адны
турботы,
Хвілінкі нат няма для іншае істоты!

**ЛОРЫ ЛІ**
**(нар. 1914)**

### *КРАСАВІК*

Калі я бачыў харство ў
прыродзе —
То ў палахлівы ранні, ціхі час,
Калі вільготны ранак лімонным
сонечным святлом
Заслону скінуць мне памог
з вачэй стамлёных.
Блакітным вэлюмам нябёсы
хутаюць усё зямное,
Дзе кожная былінка і сцяблінка
Зялёнай мыльнай пенай аблілася.
Пупышкі набрынялі, як пацеркі,
на дрэвах.
Калі і чуў я нешта боскае
ў прыродзе,
То ў час, калі ва ўлонні пышным
дрэваў,
Стуліўшы крылы, птушачкі
співаюць,
І гукі спеваў іх звіняць ў паветры.

Праменні сонца ў кронах —
як смарагды.
Дзяўчо, бялюткае, як чыстая
вадзіца,
Ля возера гуляе з белым
лебедзем,
Шчабеча нешта з ім, але прагнаць
баіцца.

Цяпер, калі міндаль згарэлы кнот
кідае долу,
Ці полымем гуляе па дыване
зялёным,
Цяпер, калі прыносіць Бог нам
момант асалоды,
Лавіце момант гэты, бо ён
не будзе доўгім.

## МАСТАЦТВА БЕЗ МЕЖАЎ



У сталічным Палацы мастацтва адбылася выстава скульптуры міжнароднага пленэра "Інтэграрт-99", які праходзіў у жніўні 1999 года ў Польшчы. Яго арганізатар — вядомы польскі мастак прафесар Анджэй Струміла. Пленэр аб`ядна́ў скульптараў Беларусі, Польшчы, Літвы, Германіі і Францыі.

НА ЗДЫМКАХ: польскі скульптар прафесар Анджэй СТРУМІЛА (злева) і старшыня Беларускага фонду культуры Уладзімір ГІЛЕП на адкрыцці выставы; "Выкраданне Еўропы" — работа беларускага скульптара Ігара ЗАСІМОВІЧА.

**Фота БелТА.**



## ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ

**АД РЭДАКЦЫІ.**
**Шаноўныя чытачы! Спадзяёмся, вы ўжо азнаёміліся з анкетай МГА "ЗБС "Бацькаўшчына", надрукаванай у "Голасе Радзімы" за 12 красавіка, дзе ёсць запрашэнне да гаворкі пра зробленае гэтай грамадскай арганізацыяй напярэдадні яе юбілею — 10-й гадавіны з дня заснавання.**
**Ва ўсіх нас, дарагія суродзічы, ёсць нагода правесці абмен думкамі па актуальных і значных праблемах узаемаадносін дыяспар з Беларуссю — канкрэтнымі людзьмі, грамадскімі арганізацыямі і ўстановамі. Першым адгукнуўся на анкету гісторык і непасрэдны (ад першых дзён заснавання гэтай арганізацыі) удзельнік падзей — Леанід ЛЫЧ.**

# «БАЦЬКАЎШЧЫНА»

● **Леанід ЛЫЧ**, *доктар гістарычных навук.*

ДЗЕСЯЦІГОДДЗЕ чарговай хвалі беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння прычынілася да таго, што ўжо шэраг яго грамадскіх арганізацый паспеў адзначыць аналагічны па часе юбілей. Першымі зрабілі гэта два беларускія народныя франты "Адраджэнне", кіраўнікамі якіх з`яўляюцца Зянон Пазняк і Вінцук Вячорка. Па-сапраўднаму адсвяткаваць свой дзесяцігадовы юбілей ім не выпала. Зроблена за гэты час нямала, але пра якія-небудзь сур`ёзныя, эпахальныя дасягненні сёння гаварыць ужо не даводзіцца.

Большая перспектыва ў другога юбіляра сучаснага Адраджэння — Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, якое ставіць на мэце абуджэнне масавага руху ў краіне за пашырэнне сацыяльных функцый беларускай мовы і наданне ёй статуса адзінай дзяржаўнай.

Гэты год будзе дзесятым па ліку і ў летапісе "Згуртавання беларусаў свету (ЗБС) "Бацькаўшчына". Гісторыя гэтай грамадскай арганізацыі, як і папярэдніх, напоўнена ўзлётамі і падзеннямі.

Напачатку захопленыя ідэяй аб`яднання беларусаў планеты Зямля людзі збіраліся і да самых тонкасцей абмяркоўвалі шляхі яе рэалізацыі. Не ведаю, хто з кагорты тых няўрымслівых людзей параіў уключыць і аўтара гэтых радкоў, але на сустрэчы са сваімі аднадумцамі хадзіў з вялікаю ахвотаю.

Кожнае пасяджэнне ўсё больш і больш пераконвала ў неабходнасці аб`яднання беларускіх сіл, і настаў час стварыць Арганізацыйны камітэт. Адбылося гэта 6 сакавіка 1990 года. Старшынёй аднагалосна абралі ініцыятара аб`яднаўчага руху сярод беларусаў свету навукоўца і пісьменніка Яўгена Лецку.

Як і ва ўсіх падобных выпадках, самай складанай справай з`явілася выпрацоўка неабходных праграмных дакументаў, без якіх немагчыма правядзенне ўстаноўчай канферэнцыі любога добраахвотнага грамадскага аб`яднання. Свайго ўласнага вопыту складання такіх дакументаў не мелася. Адсутнічала ўсялякая магчымасць запазычыць яго ў якой-небудзь іншай краіне. Знайсці выйсце з гэтай нялёгкай сітуацыі дапамагла напружана-творчая праца сяброў рэдакцыйнай камісіі ў складзе Віктара Гараднюка, Яўгена Куліка, Вячаслава Рагойшы, Міхася Чарняўскага і Язэпа Юхо (узначальваў камісію). Склаcці рабочы варыянт статута будучага Згуртавання беларусаў свету даручылі кандыдату юрыдычных навук Віктару Гараднюку.

Да пачатку жніўня 1990 года былі ў асноўным падрыхтаваны ўсе неабходныя праектныя дакументы, у тым ліку і статут "Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына". Зыходзячы са складанасці ўзятых на сябе гэтым аб`яднаннем функцый, пяты пункт статута быў сфармуляваны наступным чынам: згуртаванне ажыццяўляе свае мэты і задачы ва ўзаемадзеянні з дзяржаўнымі органамі, прадпрыемствамі, навуковымі і навучальнымі ўстановамі, грамадскімі і іншымі арганізацыямі. Як бачым, згуртаванне не знаходзілася ў апазіцыі да тагачаснай дзяржавы, мела намер толькі сумеснымі сіламі і намаганнямі шукаць разам з ёю шляхі вырашэння агульнанацыянальных задач. У якасці галоўнай статут на першае месца паставіў забеспячэнне Беларусі статуса суверэннай дзяржавы.

Устаноўчая канферэнцыя "Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" прайшла 10 верасня 1990 года ў мінскім Доме літаратара. Гэты дзень і лічыцца афіцыйнай датай заснавання "ЗБС "Бацькаўшчына".

На ўстаноўчай канферэнцыі прэзідэнтам згуртавання абралі народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава, старшынёй Рады — Яўгена Лецку. На бліжэйшым пасяджэнні ён стаў і старшынёй Управы "ЗБС "Бацькаўшчына", на якую ўскладваліся функцыі выканаўчага органа. 27 кастрычніка 1990 года на чарговым пасяджэнні Рады "ЗБС "Бацькаўшчына" было створана 9 розных камісій, з якіх у першую чаргу хацелася б адзначыць культурна-асветніцкую, рэлігійна-свецкіх узаемін, па вяртанню культурнай спадчыны, па краязнаўству, айчынным і замежным турызме, ад дзейнасці якіх у найбольшай ступені залежалі інтэграцыйныя працэсы сярод беларусаў свету. Узначалілі гэтыя камісіі добра вядомыя ў краіне грамадскія і культурныя дзеячы, на-



## БЕЛАРУСКІ ПОГЛЯД

# ДЫКТАТАРЫ XX СТАГОДДЗЯ

● **Юры ВЕСЯЛКОЎСКІ** *(Англія).*

Летам 1940 года Літва, Латвія і Эстонія пад націскам заключылі пакт з СССР, які пазбаўляў іх суверэнных правоў. Вось што сказаў тады літоўскі міністр Крэве-Міцкявічус Молатаву: "Хацеў бы толькі папярэдзіць вас, што, калі аб вашых мэтах стане вядома нашаму народу, ён будзе глядзець на немцаў як на магчымых саюзнікаў, якія дапамогуць яму вызваліцца ад вашай тыраніі. Няма ніякага сумнення, насельніцтва будзе разглядаць вашы гарнізоны як акупацыйную армію і будзе змагацца з імі ўсімі магчымымі шляхамі. Ці выгадна гэта Савецкаму Саюзу ў такі нестабільны час? Каб пазбегнуць усяго гэтага, мы прапануем заключыць новы дагавор аб дружбе. Гэта палепшыць наша становішча і ўмацуе аўтарытэт Савецкага Саюза ў вачах літоўскага народа. У адпаведнасці з гэтым пактам мы згодны нават на абмежаванне волі нашых дзеянняў у галіне знешняй палітыкі дзеля таго, каб улічыць інтарэсы і парады Савецкага Саюза".

На гэта Молатаў адказаў міністру Літвы, спасылаючыся на Леніна, што другая сусветная вайна дазволіць нам заваяваць уладу ва ўсёй Еўропе. "Я думаю, — казаў Молатаў, — дзесьці каля Рэйна адбудзецца рашаючая бітва паміж пралетарыятам і загніваючай буржуазіяй... Мы не можам дазволіць застацца ў нас у тыле маленькаму астраўку той сацыяльнай сістэмы, якая павінна будзе знікнуць па ўсёй Еўропе".

Так ігнараваліся законныя правы людзей і ўсіх народаў дыктатарскімі рэжымамі Сталіна і Гітлера. Пасля такіх экспансій двух дыктатараў граніца СССР з Нямеччынай расцягнулася на 3 000 кіламетраў і не была фартыфікавана.

Дружалюбныя адносіны паміж двума дыктатарамі засталіся. Былі падпісаны дзве гандлёвыя дамовы. Савецкі Саюз дастаўляў у Нямеччыну неабходную сыравіну для яе ваеннай прамысловасці, якая вылічвалася тысячамі тон розных металаў, нават каляровых, паліва і зерня. Так што Гітлер не баяўся марской блакады Англіі і Францыі. Сталін аказаўся такім шчодрым для Гітлера, што слаў у Нямеччыну больш, чым гэта было ўзгоднена дагаворам. Нават за некалькі гадзін да атакі на СССР прыйшоў цягнік з таварам.

Як верныя саюзнікі Гітлера, Сталін і Молатаў гаварылі, што Брытанія і Францыя — агрэсары, а Нямеччына толькі бароніцца. Савецкая прапаганда трубіла, каб ЗША не ўмешваліся ў еўрапейскія справы і не падтрымлівалі Брытанію і Францыю.

Адказваючы Рыбентропу на прывітанні з нагоды сваіх 60-ці гадоў, Сталін дзякаваў міністру і сказаў: "Сяброўскія сувязі народаў Нямеччыны і Савецкага Саюза, замацаваныя крывёю, маюць усе падставы быць працяглымі і моцнымі".

Нягледзячы на ўсе гэтыя антызаходнія выступленні Крамля супраць Вялікабрытаніі і Францыі, брытанскі амбасадар у Маскве Стафард Крыпс перадаў Сталіну 1-га ліпеня 1940 года пісьмо ад Чэрчыля, які прапанаваў саюз на выпадак нямецкага нападу на СССР. Але такую прапанову Сталін не прыняў. Падобная прапанова брытанска-савецкага саюза была прадстаўлена савецкаму амбасадару ў Лондане Майскаму 15-га красавіка 1941 года, але і гэтым разам яна не мела падтрымкі. І толькі, калі Гітлер напаў на СССР, Сталін зразумеў свае памылкі і ўступіў у саюз з Вялікабрытаніяй і ЗША.

Дзякуючы матэрыяльнай дапамозе Сталіна, Гітлер узброіў сваю армію і ў 1940 годзе заняў Бельгію, Данію, Галандыю, Францыю і Нарвегію. Восенню таго ж года саюзнік Гітлера Мусаліні напаў на Грэцыю. І хоць яго напад грэкі адбілі, было зразумела, што немцы дапамогуць італьянцам.

Раней, 24-га чэрвеня 1940 года, Югаславія падпісала дагавор з СССР аб сяброўстве на пяць гадоў, спадзеючыся на дапамогу Савецкага Саюза на выпадак нямецкай агрэсіі. Разумеючы небяспеку, якая пагражала СССР з боку Нямеччыны і Японіі, Сталін на канферэнцыі камандзіраў арміі 13-га студзеня 1941 года сказаў, што Расія павінна падрыхтавацца да вайны, бо ёй пагражае небяспека з захаду і ўсходу.

Але калі немцы дапамаглі італьянцам заняць Грэцыю ў сакавіку 1941 года, а Югаславію ў красавіку, Савецкі Саюз не аказаў ім ніякай дапамогі, а 9 траўня 1941 года нават адмовіў прызнаць югаслаўскае пасольства ў Маскве з прычыны страты дзяржаўнай незалежнасці.

У ходзе агрэсіўнай вайны Мадзьяршчына, Румынія і Балгарыя сталіся сатэлітамі Гітлера. Такая экспансія на Балканах занепакоіла крамлёўскіх лідэраў, але яны не аказалі дапамогі сваім старым саюзнікам. Чырвоная Армія не магла аказаць мілітарнай дапамогі, бо ў часе сталінскай чысткі не стала:

3 з 5 маршалаў,
13 з 15 камандзіраў армій,
8 з 9 адміралаў,
50 з 57 камандзіраў карпусоў,
108 з 154 членаў Вярхоўнага Веннага Савета.

Ад 1937 года да 1941-га 43 000 камандзіраў батальёнаў і ніжэйшых афіцэраў былі арыштаваны. Адных расстралялі, іншых адаслалі ў лагеры. Як падае Рой Мядзведзеў: "Ніколі афіцэры ніякай арміі не панеслі такіх вялікіх страт ні ў якой вайне, як Савецкая Армія ў гэты час".

12 лістапада 1940 года Молатаў паехаў у Берлін. Гітлер прапанаваў яму, каб Савецкі Саюз далучыўся да саюза Нямеччыны, Італіі і Японіі. За гэта абяцаліся Расіі ўплывы на Чорным моры і прастора ў Азіі. Гітлер гаварыў аб падзеле свету на чатыры часткі ўплыву. Наступнага дня Молатаў гутарыў з Рыбентропам, а англічане пачалі бамбіць Берлін. Прыйшлося перайсці ў бункер Рыбентропа, дзе ў далейшай дыскусіі Рыбентроп запэўніваў Молатава, што Брытанія пабіта і яе імперыю чакае падзел між дзяржавамі "восі". Тады Молатаў іранічна запытаў Рыбентропа: "Калі так, то чые гэта бомбы падаюць так блізка?"

Наслухаўшыся прапаноў Гітлера і Рыбентропа, Молатаў прывёз іх у Маскву 14-га лістапада. Дванаццаць дзён пазней Гітлер атрымаў з Масквы згоду на падзел свету на чатыры сферы ўплыву з канкрэтнымі савецкімі прапановамі. Але яны Гітлеру не спадабаліся, і ён ужо не так патрабаваў матэрыяльную дапамогу ад Савецкага Саюза, бо меў пад сваім кантролем некалькі дзяржаў і больш за 330 мільёнаў насельніцтва. Гітлер загадаў генералу Гадлеру адпрацаваць дакладны план нападу на Савецкі Саюз. "План Барбароса" быў прыняты 18-га снежня 1940 года.

Калі Гітлер паведаміў сваім генералам пра "План Барбароса", то некаторыя з іх былі здзіўлены і не падзялілі такі рызыкоўны крок. Але Гітлер запэўніў: усё, што патрэбна ў вайне, будзе ўзята на Усходзе.

КДБ меў добрых разведчыкаў ва ўсіх краінах свету, яны інфармавалі свой цэнтр аб найважнейшых падзеях. Першая вестка аб тым, што мае адбыцца атака немцаў на Савецкі Саюз, прыйшла з Швейцарыі. Такая інфармацыя паступала з Берліна, Парыжа, Токіо. Чэрчыль некалькі разоў папярэджваў Маскву пра напад Гітлера на СССР, але такую інфармацыю Сталін прымаў за правакацыю. Масква хацела паказаць свету, быццам паміж Савецкім Саюзам і Нямеччынай пакт Рыбентропа — Молатава актуальны.

Найбольш дакладную інфармацыю пра напад Гітлера на СССР перадаваў Рыхард Зорге. Ён працаваў карэспандэнтам адной нямецкай газеты ў Токіо, быў сябрам нямецкага амбасадара і японскага прэм'ера. Таму меў доступ да інфармацыі. Зорге паведаміў, што японскі ўрад не мае намеру напасці на СССР.

18-га чэрвеня нямецкі сяржант перайшоў на савецкі бок і сказаў, што 22-га чэрвеня ў 4.15 раніцы немцы пойдуць у наступ па ўсёй савецка-нямецкай граніцы. Але ўся гэта інфармацыя пра напад Гітлера на Савецкі Саюз не пераканала Сталіна, ён ніяк не мог паверыць у здраду Гітлера.

22 чэрвеня 1941 года на пасяджэнні Цэнтральнага Камітэта партыі Сталін сядзеў белы.

Пра напад Гітлера на Савецкі Саюз паведаміў па радыё В. Молатаў. Ён сказаў, што гітлераўская Нямеччына напала вераломна і неспадзявана.

Сталін, які быў галоўным ідэолагам саюза з Гітлерам, так ніколі і не прызнаў сваёй віны. Віну ўсклалі на невінаватых генералаў Заходняга фронту на чале з Паўлавым за іх "некампетэнтнасць". На допытах іх білі і дамагаліся прызнання ў змове супраць Сталіна і за гэта расстралялі 30-га чэрвеня 1941 года.

Чырвоная Армія была дэмаралізавана. Справы на Заходнім фронце пачалі мяняцца да лепшага зімою 1941 года, калі быў адбіты наступ немцаў на Маскву.

Дзякуючы інфармацыі Зорге, што японцы не нападуць на СССР, каля дзесяці дывізій з поўным узбраеннем былі пераведзены на Заходні фронт. Яны прымалі ўдзел у баях пад Масквой.

У кастрычніку 1941 года Зорге быў арыштаваны японскай паліцыяй і тры гады пазней, 7-га лістапада 1944 года, павешаны. Савецкі ўрад нічога не зрабіў, каб ўратаваць жыццё свайму чалавеку, які так многа зрабіў. Сталін не меў намеру ратаваць жыццё тым, хто папярэджваў яго і мог быць сведкам ягоных пралікаў на парозе вайны. Падобны лёс напаткаў і іншых савецкіх разведчыкаў, якія інфармавалі свой цэнтр аб непазбежным нападзе немцаў на СССР. Нават жонку Зорге арыштавалі і вывезлі ў лагер.

Варта згадаць, што перад нападам на Савецкі Саюз старшыя камандзіры нямецкай арміі атрымалі так званы "Камісара загад", падпісаны Гітлерам, у якім гаварылася: "Вайна супраць Расіі не можа весціся рыцарскім звычаем. Ідзе змаганне адной з ідэалогій расавай розніцы, і змаганне павінна весціся без ніякай міласці і з няўступнай жорсткасцю". І той жаўнер, які паступіць супраць міжнароднага права, будзе прабачаны, бо Расія не прымае ўдзелу ў Гаагскай канвенцыі і таму не падлягае яе праву. Так тлумачыў Гітлер.

Хоць Сталін ніколі не прызнаў свае памылкі, аднак на прыёме ў Крамлі 24-га траўня 1945 года сказаў: "У нашага ўрада было нямала памылак, былі ў нас моманты адчайнага становішча ў 1941—1942 гадах, калі наша армія адступала... таму што не было іншага выйсця. Іншы народ мог бы сказаць ураду: вы не апраўдалі нашых спадзяванняў, ідзіце прэч, мы паставім іншы ўрад, які заключыць мір з Нямеччынай і забяспечыць нам спакой. Але рускі народ не пайшоў на гэта, бо ён верыў у правільнасць палітыкі свайго ўрада".

"Правільная палітыка свайго ўрада" каштавала СССР дзесяткі мільёнаў жыццяў.

Нягледзячы на ўсе страты і пралікі, Сталін стаўся ў час вайны мацнейшым, чым быў перад вайной. Заходнія саюзнікі шчодра дапамагалі яму ў вайне. Толькі ўсё гэта пайшло ў забыццё, бо хутка пасля гарачай вайны пачалася "халодная вайна" і апусцілася "жалезная заслона".

Варта яшчэ згадаць, што смерць Гітлера і Сталіна пакінула па сабе чорны след. Гітлер, каб не адказваць перад судом за свае злачынствы, скончыў самагубствам 30-га красавіка 1945 года і быў спалены. Яго верны слуга і прапагандыст арыйскай расы Гебельс атруціў шасцёра сваіх дзяцей, застрэліў жонку і сябе 1-га траўня 1945 года. Герман Герынг, які быў асуджаны Нюрнбергскім трыбуналам, за некалькі гадзін да шыбеніцы прыняў атруту. Дзесяць нацыстаў, блізкіх супрацоўнікаў Гітлера, апынуліся на шыбеніцы 16-га кастрычніка 1946 года.

Сталін, як вядома, перад паралічом меў гутарку са сваімі сябрамі даволі позна ўначы. Калі раніцай ён не паказаўся, абслуга была занепакоена, але баялася яго трывожыць. І толькі а другой гадзіне ночы зайшлі ў яго спальню і ўбачылі, што Сталін ляжыць на падлозе і не можа гаварыць. Тады паклікалі Малянкова і Берыю. Берыя прыехаў а трэцяй гадзіне раніцы і сказаў, што Сталін спіць і не трэба клікаць доктара. Ён і іншыя лідэры прыйшлі зноў а дзявятай гадзіне вечара з доктарам. Берыя хадзіў па пакоі, пляваўся і выказваў свой гнеў, што збоку выглядала непрыстойна. А калі Сталін адкрыў вочы, Святлана Сталіна ўбачыла, як хутка змяніўся Берыя. Ён ужо хацеў паказаць, "які адданы майму бацьку. Позірк майго бацькі быў страшны, яго не магу забыць па сёння..." Так запісала Святлана. Хрушчоў адзначаў: "Калі Сталін адкрыў вочы, Берыя ўпаў на калені, узяў руку Сталіна і пачаў яе цалаваць. А калі Сталін страціў прытомнасць і закрыў вочы, Берыя ўстаў і плюнуў..."

Такой была смерць двух былых саюзнікаў-дыктатараў, на сумленні якіх засталіся мільёны ахвяр як у мірны час, так і ў вайну. Таму, каб чалавек мог спакойна жыць і свабодна сябе адчуваць, трэба змагацца з усімі праявамі дыктатуры.

**Заканчэнне. Пачатак у №№ 18, 19.**

## ЭЎРЫКА



У рамках двух Еўрапейскіх праектаў і праграмы "Інтас" па стварэнню штучнага інтэлекту гэтай праблемай займаюцца ў лабараторыі штучных нейтронных сетак Брэсцкага політэхнічнага інстытута. Фінансуе даследаванні Еўрапейскі саюз.

НА ЗДЫМКУ: аспіранты Наталля ФАЛІНКОВА, Юрый САВІЦКІ, Алег ІГНАЦЮК з загадчыкам лабараторыі старшым выкладчыкам кафедры ЭВМ Уладзімірам ГАЛАЎКО.

**Фота БелТА.**

# НАПЯРЭДАДНІ 10-годдзя

вукоўцы. У склад Рады на правах камісій уваходзілі яшчэ тры вельмі важныя яе структурныя падраздзяленні, адно з якіх займалася навуковай дзейнасцю, другое — сувязямі з беларусамі замежных краін, трэцяе — сувязямі з беларускімі зямляцтвамі ў СССР.

З усяго, што ўдалося ажыццявіць Радзе і Управе "ЗБС "Бацькаўшчына" пасля яго ўстаноўчай канферэнцыі, найперш за ўсё варта адзначыць афіцыйную рэгістрацыю гэтага аб`яднання 29 снежня 1990 года ў Міністэрстве юстыцыі БССР. Ад гэтага часу" ЗБС "Бацькаўшчына" атрымала юрыдычны дазвол весці сваю дзейнасць у рэспубліцы і па-за яе межамі ў адпаведнасці з вызначанымі ў статуце задачамі. Работа вялася з зайздросным размахам. З арганізаваных "Бацькаўшчынай" у 1991 годзе мерапрыемстваў можна найперш згадаць правядзенне на Беласточчыне канферэнцыі па кнізе Міколы Ермаловіча "Старажытная Беларусь" з удзелам яе аўтара. Адбыліся цікавыя сустрэчы з грамадскасцю, навучэнцамі ліцэяў і васьмігадовых школ, у час якіх было падорана каля тысячы асобнікаў кнігі. Пры актыўным садзейнічанні Міністэрства культуры Беларусі на Ратушным пляцы ў Таліне быў абсталяваны "Беларускі дом", у якім пачалі ладзіцца выставы прафесійных мастакоў і народных майстроў, выступленні беларускіх акадэмічных і фальклорных калектываў, тэатра "Дзе-я". З удзелам спеўна-танцавальнага гурта "Рунь", заслужанай артысткі Беларусі Таццяны Мархель, народнага майстра Сямёна Саўрыцкага прайшлі "Дні Бацькаўшчыны" ў далёкай Якуціі, куды лёс занёс многіх нашых суродзічаў. На гары Радагошча каля Свіцязі ўпершыню ладзілася ўсебеларускае Купалле, на святкаванне якога прыехалі і беларусы з замежжа. У сувязі з сотымі ўгодкамі беларускага паэта Максіма Багдановіча быў арганізаваны круіз па рускіх рэках на "Спеўным цеплаходзе" з удзелам мастацкіх калектываў "Жыцень", "Жавароначкі", "Музыкі", "Яблынька", артыстак Галіны і Ксеніі Дзягілевых. На юбілейных мерапрыемствах у Ніжнім Ноўгарадзе і Яраслаўлі, з якімі так многа звязана ў лёсе роду Багдановічаў, адбыліся цікавыя сустрэчы з прыхільнікамі яго паэтычнай творчасці. Усё самае важнае і цікавае, з чым давялося сустрэцца падчас круіза, знайшло адлюстраванне ў дакументальным фільме.

Практычна ва ўсіх найважнейшых мерапрыемствах 1991 года непасрэдны ўдзел браў старшыня Рады і Управы "ЗБС "Бацькаўшчына" Я. Лецка.

Аб плённай дзейнасці, уласцівай "ЗБС "Бацькаўшчына" з самых першых месяцаў яе існавання, нашы супляменнікі як блізкага, так і далёкага замежжа ўжо добра ведалі ў 1991 годзе. Усё часцей ад актыўных супольнікаў "ЗБС "Бацькаўшчына" можна было пачуць, што надышоў час разам з правядзеннем рознага роду культурна-асветніцкіх мерапрыемстваў у сябе дома ці за мяжой з беларускімі асяродкамі замахнуцца на арганізацыю больш маштабнай акцыі накшталт склікання ўжо ў 1992 годзе Нарады беларусаў з абшараў былога СССР ці нават Кангрэса беларусаў свету. Пасля грунтоўнага абмеркавання гэтага пытання на пасяджэнні Рады "Бацькаўшчыны" з прадстаўнічай дэлегацыяй беларусаў ЗША і Канады вырашылі ўсё ж спыніцца на нарадзе, а з`езд беларусаў свету правесці ў наступным годзе. У ходзе падрыхтоўкі да нарады вырашылі адмовіцца ад гэтай назвы. Прапанавалі данае мерапрыемства называць Першы сход беларусаў блізкага замежжа. Створаны дзеля гэтай мэты аргкамітэт узначаліў намеснік старшыні Рады Валерый Герасімаў. Аргкамітэт звярнуўся з просьбай да дзяржаўных структур, Саюза прадпрымальнікаў Беларусі, прыватных фірмаў аб удзеле ў фінансаванні Першага сходу беларусаў блізкага замежжа. І гэтая просьба не засталася па-за іх увагай. З прыватных фірмаў адгукнуліся "Амега" з Беласточчыны, "Беларускі шлях" з Рыгі, "Дайнова" з Мінска.

**Заканчэнне будзе.**

ПРЭМ'ЕРА

# «ГОЛАСУ РАДЗІМЫ» АД ГОЛАСУ РАДЗІМЫ

## ТАКІ АЎТОГРАФ ДАЛА НАМ Ірына ДАРАФЕЕВА



НА НЕБАСХІЛЕ беларускай эстрады загарэлася новая зорка, імя якой — Ірына Дарафеева. У сваім узросце (Ірыне сёлета споўнілася 22 гады) гэтая спявачка дасягнула значных поспехаў: у 17 год стала саліcткай папулярнага ансамбля "Верасы", пасля спявала ў Дзяржаўным канцэртным аркестры пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга. Голас Ірыны ведаюць не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі: яна выступала ў Бельгіі, Германіі, Люксембургу, Польшчы, Аўстрыі, Швейцарыі, Галандыі, Літве, Югаславіі, Балгарыі. Пачынаючы з "Залатога шлягера-98", маладая спявачка з Магілёва стала лаўрэатам чатырох міжнародных конкурсаў вельмі высокага рангу — з усіх гэтых конкурсаў яна вярталася з прэміямі не ніжэй за другую, чаго раней у гісторыі беларускай папулярнай музыкі не здаралася.

І вось яшчэ адзін дэбют. У Мінску адбыўся першы творчы вечар Ірыны Дарафеевай — шоу-праграма "Мая любоў". Па словах спявачкі, яна даўно марыла аб гэтым: "Мне хацелася, каб мяне любілі ў першую чаргу беларускі слухач. Я нарадзілася тут, і для мяне гэта асабліва важна. Назва праграмы — "Мая любоў" сведчыць пра тое, што гэты канцэрт будзе выяўленнем маёй любові да людзей. Я хачу падарыць сябе, сваю душу гледачам..."

Канцэрт, які складаўся з двух аддзяленняў, праходзіў толькі ў жывым выкананні. У першым аддзяленні спявачкі акампаніраваў Дзяржаўны канцэртны аркестр пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга, у другім партнёрамі Ірыны па сцэне былі вядучыя інструменталісты краіны. У праграме былі заняты вакальная група "Камерата", ансамбль старажытнай музыкі "Контрданс", балетная трупа "Эас". Рэпертуар канцэртнай праграмы быў вельмі разнастайны: гэта і аркестравая музыка, і фальклорныя нумары, і джазавыя кампазіцыі. Ірына спявала на беларускай, рускай, польскай мовах. Выконвала песні з рэпертуару Мірэй Мацье, груп "АВВА" і "Шокін Блю". Як адзначыў Юрый Саваш, прадзюсер спявачкі, з якім яна супрацоўнічае з 1996 года, "ідэя канцэрта заключаецца ў тым, каб упершыню пазнаёміць слухачоў са шматграннасцю таленту Ірыны Дарафеевай, прадставіць гледачам творча сталую спявачку". Цікава, што на гэты канцэрт прыехала шмат расійскіх прадзюсераў. Хто ведае, магчыма, праз нейкі час песні Ірыны Дарафеевай будуць займаць першыя радкі хітпарадаў. Сама ж Ірына кажа: "Я адпачываю ад перамены роду занятка́ў. Чым больш у мяне прапаноў, чым больш новых праектаў, тым больш цікава мне жыць".

Адносна ж першага сольнага канцэрта Ірыны Дарафеевай можна сказаць адно: ён меў вялікі поспех. Ірына паказала сябе ва ўсёй разнастайнасці свайго вакальнага таленту і прафесіяналізму.

На пытанне, якое яе творчае крэда, Ірына адказала: "Ісці толькі наперад, нягледзячы ні на што". Спадзяёмся, што гэты дэвіз і мэтанакіраванасць дапамогуць Ірыне Дарафеевай здзейсніць запаветную мару — прадставіць Беларусь на прэстыжным музычным конкурсе Еўрабачання.

Нэлі ПРЫВАЛАВА.

ДЗІЦЯЧАЯ ЧЫТАНКА

Станіслаў ВАЛОДЗЬКА

ПРАДАЎШЧЫЦЫ СНІЦЦА СОН

I

Прадаўшчыца бачыць сон:
Слон зайшоў у модсалон.
Хтосьці крыкнуў:
— Выйдзі вон!
Толькі слон зрабіў паклон
І сказаў зусім не ў тон:
— Што вы гоніце мяне!
Капялюш той дайце мне!

II

Аж праняў халодны пот:
Бачыць: у салоне мод
Аказаўся бегемот.
Тут разявіў нехта рот:
— Вон пайшоў ты, абармот!
Ды прамовіў бегемот:
— Шмат не будзе вам турбот.
Вы мне дайце тыя боты,
У іх пайду на Новы год!

МЯЧЫК

"Гэта хто ж вунь там маячыць!"—
Аніяк сваім вачам не паверыць заяц:
Мячык
Порстка так імчыцца. Сам!

Па лужку наўпрост сягае,
Праз масток,
Цераз кусток,
Бліжай, бліжай скача мячык,
Быццам зайчык:
Скок ды скок!

Тут аклікнуў заяц:
"Мячык,
Ты адкуль спяшыш?
Куды!"

"Уцякаю я,
Іначай
Недалёка да бяды!"

Днямі бібікі б'е хлопчык
І мяне ён, што меў сіл,
Калашмаціў. Як аднойчы
Я зусім дух не спусціў!

Белы свет такі прыгожы
Мне парой нямілы быў:
Хлопчык мной збіваў прахожых,
А цяпер — акно разбіў!

І прамовіў заяц:
"Бачу
Што і ты, як калабок,
З дому збег.
Ну што ж — удачы!"

Мячык жвава
Скок ды скок!..

КРЫЖАВАНКА

ПА ГАРЫЗАНТАЛІ. 5. Момант, істотныя абставіны ў якім-небудзь працэсе, з'яве. 6. Асоба, якая чытае перад мікрафонам перадачы па радыё і тэлебачанні. 9. Схільнасць да чаго-небудзь. 11. Майстар, які займаецца вырабам раменнай вупражы. 12. Цягавая машына, прызначаная для перамяшчэння па рэйках чыгуначных саставаў. 15. Адрэзаны кавалак хлеба, сала. 18. Невялікае памяшканне пры хаце для захоўвання ежы. 19. Пусты цыліндр у машынах, механізмах. 20. Невялікая шэрая пявучая птушка з атрада вераб'іных, з чырвонаю грудкаю. 21. Група людзей або прадметаў, якія размешчаны або рухаюцца выцягнутай лініяй, адзін за адным. 24. Вырабы з тканіны для нашэння на целе або для бытавых патрэб. 26. Гульня (у шашкі). 27. Тып, марка канструкцыі. 31. Адзіная зорная сістэма. 33. Вострая заразная хвароба жывёлы. 34. Белае рэчыва, якое атрымліваецца шляхам абпальвання асобага каменю і выкарыстоўваецца ў будаўніцтве. 35. Хутка, ажыўлена. 36. Мужчынская летняя шапка з казырком.

ПА ВЕРТЫКАЛІ. 1. Мусульманскі вандроўны манах. 2. Памер кнігі, аркуша, старонкі. 3. Вымаўленне, выразнасць у вымаўленні слоў і складоў. 4. Разумная падстава, сэнс, аснова. 7. Характар чалавека, тэмперамент. 8. Калючая халодная зброя з доўгім і гнуткім чатырохгранным клінком. 10. Чалавек, які ў свабодны час займаецца чым-небудзь па ахвоце. 13. Несумленны спосаб дасягнення мэты. 14. Цёмнае, цеснае памяшканне. 16. Надта маленькі крывяносны сасуд. 17. Доўгі паглыблены прарэз на паверхні глебы, зроблены плугам. 22. Няўдача, правал. 23. Снег, які толькі што выпаў. 25. Аб'язнанне на аснове дагаворных абавязацельстваў. 28. Рэзкае, з'едлівае высмейванне чаго-небудзь. 29. Недакураная папяроса. 30. Два змацаваныя паміж сабой металічныя звяны, якія прымацоўваюцца да аброці і закладваюцца ў рот каню пры закілзванні. 32. Вялікі акруглы камень — абломак скалы, некалі прынесены ледніком.



Склала Ірына БЕКІШ.

УРАЖАННІ





ПАВАЖАНЫЯ чытачы! За штодзённымі клопатамі можа хто і не заўважыў: вясна прыйшла! Дык пакіньце свае наседжаныя каля тэлевізараў крэслы, выйдзіце з дому, удыхніце водар веснавога паветра і азірніцеся вакол. Дзіўная гэта пара — вясна. Колькі таямніц на кожным кроку! І галоўная з іх — абуджэнне. Толькі ўявіце сабе: кропля вады, што яшчэ нядаўна была льдзінкай, зліваецца з іншымі, каб перетварыцца ў галасісты імклівы ручай і нарадзіць шырокую веснавую плынь. Неверагодная колькасць птушак, невядома чаму пакінуўшы свае цёплыя паўднёвыя "кватэры", імкнецца на поўнач, у няўтульны яшчэ край. Гоман стаіць у небе і ў празрыстых лясах, шэрасць якіх ужо аздоблена россыпам пралесак.

Паглядзіце на ўсё гэта, і, калі ў вас не пасялілася абыякавасць, вы адчуеце, што і ваша сэрца страпянулася і пайшло працаваць у іншым рытме. Гэта значыць, што і ў ваша сэрца прыйшла вясна. А з ёю і надзея.

Яўген КАЗЮЛЯ.

ГУМАР

Паліцэйскі чуе выстрал у адной з кватэр. На яго званок дзверы адчыняе жанчына. Яна вядзе паліцэйскага ў пакой, дзе на падлозе ляжыць мужчына.

— Што тут адбылося? — пытае паліцэйскі.

— Кожны дзень ён пагражаў, што застрэліцца. А сёння я зарадзіла яго рэвальвер...

* * *

— Мая жонка за рулём — маланка!

— Што, так хутка едзе?

— Не. Пападае ў дрэвы.

* * *

Аўтаінспектар спыняе грузіна, які едзе на "Волзе".

— Вашы правы?

— Калі ласка.

— Дарагі, дык гэта ж правы на кіраванне самалётам ТУ-134!

— Чаго прыдзіраешся? Якія былі, такія і купіў.

* * *

Дарожная аварыя. Паліцэйскі просіць жанчыну-вадзіцеля расказаць, як усё адбылося.

— Як?! Я зрабіла паварот менавіта ў той бок, куды паказвала.

— Так і было, — пацвярджае другі ўдзельнік аварыі. — Вось гэтым дама і ўявіла мяне ў зман. Едучы за ёю даўно, я быў пераканаты, што яна зноў паедзе не туды, куды паказвае.

«Голас Радзімы»

Галоўны рэдактар
Наталля САЛУК

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом "Радзіма".

РЭДАКЦЫЯ:
Намеснік галоўнага рэдактара Галіна УЛІЦЁНАК.
Адказны сакратар Тацццяна КУВАРЫНА.
Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі Яўген ЛЕЦКА.
Рэдактар аддзела Алена СПАСЮК.
Аглядальнікі Юрась ЛЯШКЕВІЧ, Леанід МАРАКОЎ, Таццяна ХРАПІНА.
Спецыяльны карэспандэнт Нэлі ПРЫВАЛАВА.
Рэдактар-перакладчык Святлана КАРПУЧОК.
Стыльрэдактар Ірына КАЗЛОВА.
Тэхнічны рэдактар Данута РАКАВЕЦ.

НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97 (тэл.-факс), 213-32-80, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 828 экз.
Зак. 1232.
Падпісана да друку 15.5.2000 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).